**У 115 са 118 раёнаў Беларусі ў першым квартале 2018 года смяротнасць перавысіла нараджальнасць. За мінулы год колькасць насельніцтва Беларусі паменшылася на 16.695 чалавек. Фактычна згубілены амаль цэлы раён.**

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**


**№ 39 (4291)**

15 мая 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**ЗВАРОТ ДА ЧЫТАЧОЎ**

*Калі хочаш лепшай долі –*
*Дапамажы "Народнай Волі".*
*У свеце* **ПРАЎДЫ** *жыць імкніся*
*І на газету* **ПАДПІШЫСЯ**!



Шаноўныя сябры!
Ідзе падпіска на чэрвень і другую палову 2018 года.
Вас чакаюць у паштовых аддзяленнях і спецыялізаваных пунктах "Белсаюздруку".
Будзем разам і ў далейшым!

***Вы – з "Народнай Воляй", "Народная Воля" – з Вамі!***

**ВІЗІТ**

### З Сочы – у Таджыкістан

Пасля саміту Еўразійскага эканамічнага саюза (ЕАЭС) Аляксандр Лукашэнка ляціць у Таджыкістан. Яго афіцыйны візіт у гэтую краіну прадоўжыцца да 16 мая, паведаміла прэс-служба беларускага прэзідэнта.

**ПАМЯЦЬ**

## У Беларусі з'явіўся першы помнік Тадэвушу Касцюшку



12 мая на тэрыторыі мемарыяльнага музея-сядзібы Касцюшкі каля Косава на Брэстчыне адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка Тадэвушу Касцюшку.

У мерапрыемстве ўдзельнічалі дыпламаты ЗША, Польшчы, Украіны, Расіі, прадстаўнікі мясцовых улад, дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, стваральнікі помніка і госці з многіх гарадоў.

Старшыня Івацэвіцкага райвыканкама **Аляксандр Грыцук** у сваім выступленні сказаў:

*«Сёння мы лічым, што з пэражытага мінулага нам трэба браць тое, што можа зрабіць нас лепшымі, што можа быць нам прыкладам. Асоба Касцюшкі – гэта прыклад адданасці сваёй Радзіме, святой любові да роднай зямлі. Ёсць рэчы, якія па сваёй сіле і значнасці могуць аб'яднаць нас усіх – такіх розных у сваіх думках і перакананнях».*

Як раней паведамляла "Народная Воля", збор сродкаў на ўсталяванне помніка Касцюшку быў ініцыяваны журналістам **Глебам Лабадзенкам**. Праект падтрымалі 690 чалавек, якія сабралі больш за 22 тысячы рублёў. Імёны ўсіх ахвярадаўцаў будуць захоўвацца ў музеі.

Аўтар помніка – вядомы беларускі скульптар **Гэнік Лойка.**

**СКАЗАНА!**

## Лукашэнка – Пашыняну: «Вы малайцы. Мы рады за вас…»

Пра гэта Аляксандр Лукашэнка заявіў учора на сустрэчы з прэм'ер-міністрам Арменіі Ніколам Пашынянам на палях пасяджэння ў Сочы Найвышэйшага Еўразійскага эканамічнага савета.

*«Я чакаў гэтай сустрэчы. Нам сапраўды варта паразмаўляць. Наўрад ці мы канцэптуальна паспеем на кароткай назе абмеркаваць усе праблемы, якія ў свеце існуюць, вакол нас. Не думаю, што ў нашых адносінах ёсць ці будуць нейкія праблемы»,* – сказаў Аляксандр Лукашэнка.

Лукашэнка выказаў гатоўнасць падрабязна расказаць новаму прэм'еру Арменіі аб развіцці адносін паміж дзвюма краінамі, дзейнасці Еўразійскага эканамічнага саюза. *«Вельмі важна, каб вы ад мяне пачулі тое, што тычыцца Беларусі і нашага стаўлення да братняга армянскага народа і вашай дзяржавы. Вы ведаеце, што гэта вельмі важная сустрэча,* – заявіў беларускі лідар. – *Наогул вы малайцы. Вы вельмі годна і правільна выйшлі з гэтай сітуацыі, вы гэта самі ўжо адчулі. Мы рады за вас».*

Аляксандр Лукашэнка дадаў, што нядаўна абмяркоўваў з прэзідэнтам Арменіі развіццё сітуацыі ў Ерэване. Было прынята рашэнне накіраваць туды беларускіх журналістаў для аб'ектыўнага, без скажэння, асвятлення падзей. *«Я вельмі ўдзячны і яму, і вам, і вашым людзям. Нашы журналісты размаўлялі з прадстаўнікамі вашага штаба і атрымалі аб'ектыўную карціну»,* – канстатаваў кіраўнік дзяржавы.

Ён яшчэ раз павіншаваў Нікола Пашыняна з абраннем прэм'ер-міністрам Арменіі і пажадаў поспехаў на гэтай пасадзе. *«На нас вы можаце разлічваць, як і раней. Наша палітыка ў дачыненні да вельмі блізкага нам армянскага народа ніколі не зменіцца. Гэта я вам абяцаю. Яна будзе такой жа канструктыўнай, сяброўскай»,* – запэўніў ён.

**БЕЛТА.**

**УСМЕШКА МАСТАКА**

## 49 крымінальных спраў

Па выніках праведзеных праверак у аграпрамысловым комплексе распачата 49 крымінальных спраў, заявіў кіраўнік КДК **Леанід Анфімаў.**

Галоўнай праблемай у АПК кіраўнік Камітэта дзяржкантролю назваў дысцыпліну. У прыватнасці, ён звярнуў увагу на тыпанне забяспечанасці пасяўной мінеральнымі ўгнаеннямі. *«Усе кажуць – няма грошай. Мы прыходзім у «Быхаўрайаграпрамтэхзабеспячэнне» – складаліся фіктыўныя акты спісання ўнесеных у зямлю ўгнаенняў, а потым злыбей капуліў і знайшлі ў ярах 3 тысячы тон закапанай даламітавай мукі – амаль 100 тысяч рублёў. І як можна ацэньваць працу гэтай гаспадаркі?»* – расказаў Анфімаў.

У другім раёне знайшлі 60 тон зляжалых мінеральных угнаенняў, якія не праходзілі па ўліку. *«Цяпер на іх прыкладзе распачалі крымінальную справу, арыштавалі аднаго кіраўніка, калі другі паспее выправіцца, можа, не пасадзім яго. Рэзананс, які пойдзе ад гэтых крымінальных спраў, а па выніках іх распачалі аж 49, павінен многіх навучыць, як правільна працаваць у інтарэсах дзяржавы»,* – падкрэсліў Анфімаў.




Малюнак Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.

**СТАЛА ВЯДОМА...**

## Лукашэнка выступіць на форуме «Мінскага дыялогу» 24 мая

Аляксандр Лукашэнка возьме ўдзел у форуме экспертнай ініцыятывы «Мінскі дыялог», які пройдзе 23–25 мая ў Мінску. Пра гэта на брыфінгу распавялі арганізатары форуму Яўген Прэйгерман і Дзяніс Мельянцоў.

Тэма форуму – «Усходняя Еўропа: у пошуках бяспекі для ўсіх». Паводле слоў арганізатараў, форум «Мінскі дыялог» павінен «пакласці пачатак штогадоваму адкрытаму і маштабнаму дыялогу паміж запрошанымі вядучымі экспертамі з Усходняй Еўропы, Еўрапейскага Саюза, Расіі, ЗША і Кітая».

У форуме плануецца ўдзел больш як 350 удзельнікаў, з іх больш за 200 будуць прадстаўляць 40 краін свету. Паводле слоў арганізатараў, на форуме плануецца разгледзець маштабныя пытанні: змяненне міжнароднага парадку, рэформу міжнародных арганізацый, санкцыённую вайну паміж Расіяй і Захадам, імплементацыю «Мінскіх пагадненняў» і іншыя.

Беларускі кіраўнік адкрые пленарную сесію «Як зрабіць Усходнюю Еўропу рэгіёнам супрацоўніцтва, а не канфрантацый?».

На форуме таксама выступяць міністр замежных спраў **Уладзімір Макей**, экс-прэзідэнт Польшчы **Аляксандр Квасьнеўскі**, Генеральны сакратар Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе **Томас Грэмінгер**, былы Генеральны сакратар АДКБ **Мікалай Бардзюжа** і іншыя.

**СВАБОДА СЛОВА**

## Андрэй БАСТУНЕЦ: «Гэта дыскрымінацыя!»

*Міністэрства культуры другі раз адмовілася ўнесці ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" у пералік творчых саюзаў краіны.*

*Старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў* ***Андрэй Бастунец*** *распавёў "Народнай Волі", што будзе абскарджваць гэтае рашэнне. Не выключана, што справа дойдзе і да суда.*

Нагадаем, што ў звароце Беларускай асацыяцыі журналістаў у Мінкульт падкрэслівалася: тры чвэрці сябраў арганізацыі з'яўляюцца творчымі работнікамі, якія займаюцца творчай журналісцкай дзейнасцю. Наяўнасць публікацый у сродках масавай інфармацыі правяраецца падчас прыёму ў сябры арганізацыі.

Нягледзячы на гэта, у адказе Міністэрства культуры паведамляецца, што прадстаўленыя дакументы не ўтрымліваюць звестак аб тым, што ГА "БАЖ" дзейнічае ў мэтах рэалізацыі творчых здольнасцяў творчых работнікаў, развіцця творчага патэнцыялу і творчай ініцыятывы грамадзян у сферы культуры.

*"Гэта быў не першы зварот БАЖ у Міністэрства культуры і не першая адмова, якую мы адтуль атрымалі,* – гаворыць старшыня БАЖ Андрэй Бастунец. – *Увесь час мы звяртаем увагу на тое, што Беларускі саюз журналістаў займаецца абсалютна ідэнтычнай дзейнасцю і адразу быў уключаны ў пералік творчых саюзаў. А БАЖ – не. Паўтаруся: характар працы сябраў гэтых саюзаў абсалютна аднолькавы! І таму ў адмовах Мінкульта я бачу дыскрымінацыю тых асоб, якія сёння супрацоўнічаюць з незалежнымі сродкамі масавай інфармацыі.*

*Зразумела, мы збіраемся зноў звярнуцца ў Мінкульт, з тым каб яны патлумачылі, з-за чаго канкрэтна нам адмаўляюць. І калі нас адказ не задаволіць, мы гатовы ісці далей і нават звяртацца ў суд. Гэта будзе нагода разабрацца, як у нас працуюць чыноўнікі Мінкульта".*

Першы раз БАЖ адмовілі яшчэ тады, калі Мінкультам кіраваў **Барыс Святлоў**. Цяпер іншы міністр – **Юрый Бондар**. І таксама адмова. Можа, гэта якраз той выпадак, калі міністры нічога не вырашаюць, а сваё крэсла займаюць, скажам мякка, для дэкору? Загад зверху?

Дарэчы, самі міністры свае аўтографы пад адказам на зварот БАЖ не ставілі – дакумент двойчы падпісала першая намесніца міністра **Ірына Дрыга**.

– *Не факт, што міністр займаўся разглядам нашай просьбы сам,* – выказвае сваё думкі старшыня БАЖ. – *Проста ёсць дзяржаўная машына, якая працуе па пэўным алгарытме, па пэўнай праграме. І мы ў рэшце рэшт хачам даведацца, які механізмы там працуюць.*

Можа, Андрэю Бастунцу варта самасам сустрэцца з міністрам культуры **Юрыем Бондарам**, каб яны маглі паглядзець адзін аднаму ў вочы і нарэшце расставіць кропкі над "і"?

– *Не выключаны і такі варыянт,* – гаворыць Бастунец. – *Проста сёння наша ўвага больш скіравана на папраўкі ў Закон "Аб сродках масавай інфармацыі". Але цалкам верагодна, што зварот аб сустрэчы будзе накіраваны міністру культуры бліжэйшым часам.*

**Марына КОКТЫШ.**

**СІТУАЦЫЯ**

### Аргкамітэт БХД супраць Мінюста

Вярхоўны суд 24 мая разгледзіць скаргу аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" (БХД) на чарговую адмову Міністэрства юстыцыі ў афіцыйнай рэгістрацыі арганізацыі.

Міністэрства юстыцыі ўжо сёмы раз адмовіла ў рэгістрацыі БХД. Сярод падстаў для адмовы былі пазначаны "адсутнасць хатніх або рабочых нумароў некалькіх заснавальнікаў", а таксама "памылкі ў датах нараджэння двух заснавальнікаў".

*"Але гэта ўсё тэхнічныя памылкі, якія маглі б быць выпраўлены. Яны не павінны быць падставай для адмовы ў рэгістрацыі палітычнай партыі",* – раней заяўляла сустаршыня БХД Вольга Кавалькова.

**ПРЯМАЯ ЛИНИЯ**

## Как помочь своим сосудам?



Малоподвижный образ жизни, избыточный вес, стоячая или сидячая работа, стрессы – все это не лучшим образом отражается на сосудах.

*Что делать, если на ногах появились «звездочки»?*

*Чем опасны судороги и отеки ног?*

*Как распознать развитие варикозной болезни?*

*В каких случаях показан компрессионный трикотаж?*

*Какие методы лечения варикозной болезни предлагает современная медицина?*

На эти и многие другие вопросы читателей ответит хирург медицинского центра «ЛОДЭ» **Владимир Николаевич ПАВЛЕНКО.**

Звоните **в среду 16 мая с 14.00 до 16.00** по телефону **328-68-41.**

Присылайте свои вопросы заранее по почте или на электронный адрес: **nvonlineinfo@gmail.com** с пометкой **«Прямая линия».**

ЖУРНАЛИСТСКОЕ РАССЛЕДОВАНИЕ

# «Кабель лежит. Завод стоит…»

*«Народная Воля» поинтересовалась, что сегодня происходит на заводе сульфатной беленой целлюлозы на базе Светлогорского целлюлозно-картонного комбината.*



«Завод в Светлогорске только начал работу, а спустя всего лишь три месяца был остановлен! – отметил А.Лукашенко, выступая с ежегодным посланием к белорусскому народу и Национальному собранию. – В правительстве до сих пор разбираются, кто перед президентом ответит за это. Я знаю, кто отвечает, но и правительство ответит!»

Напомним, что новый завод в Светлогорске должны были запустить еще в 2015 году. Но сроки сместились. В декабре 2017 года предприятие, против строительства которого активно протестовали и местные жители, и экологи, выпустило первые сто тысяч тонн сырья. А через три месяца остановилось.

*"Мы запустили пробное производство*, – объяснял журналистам гендиректор Светлогорского ЦКК **Юрий Крук**. – *Сегодня предприятие полностью обеспечено сырьем и химикатами и не работает лишь потому, что пока не подписаны дополнительные соглашения о возобновлении работ с китайской стороной"*.

Пару месяцев назад вице-премьер **Владимир Семашко** в эфире телеканала «Беларусь 1» более конкретно объяснил, что случилось с запуском завода сульфатной беленой целлюлозы: *«Генподрядчики сорвали нам все сроки»*. Семашко обещает, что все проблемы должны быть решены до конца этого года.

Один из самых главных вопросов – безопасность предприятия.

Как сообщала «Народная Воля», в свое время Госстандарт принял принципиальное решение, что кабельная продукция, которую на предприятие поставляла китайская корпорация «Самсе», не пригодна для строительства химических производств.

*«Кабель огнеопасный, сделан из плохих материалов»*, – говорили белорусские эксперты.

Руководство корпорации «Самсе», наоборот, настаивало на том, что кабель – суперинновационный, соответствует самым высоким международным стандартам. И, несмотря на запрет, китайские строители проложили бракованный кабель – почти 1000 километров. При этом китайцы предоставили российский сертификат на кабель. Когда стали разбираться, что за фирма в Москве выдала сертификат и в какой лаборатории проводили испытания кабеля, ничего не нашли даже по тем адресам, которые были указаны в документах! Стоит заметить, что ситуацию разбирали на правительственном уровне.

Противостояние с китайцами по этому вопросу длилось не один год. Китайцы то уезжали со стройки, то снова возвращались. Почти год назад китайские подрядные организации приступили к частичной замене бракованного кабеля. Сообщалось, что менять кабель они будут за свой счет, поскольку это их брак, – во всяком случае так говорили на Светлогорском ЦКК.

Закончились ли работы по демонтажу? Вопрос весьма актуальный, учитывая последние резонансные истории с пожарами в российском Кемерово и некоторых торговых объектах в других российских городах. В начале марта был пожар на Белорусском металлургическом заводе в Жлобине, который парализовал технологический процесс. По информации МЧС, возгорание произошло в кабельном тоннеле – загорелись провода, по которым подается электроэнергия.

*«Так, вопрос весьма актуальный, но некому кабель менять,* – рассказали «Народной Воле» источники, близкие к светлогорскому предприятию. – *Уехали китайцы. И до сих пор не вернулись. Кабель лежит. Завод стоит»*.

Как стало известно «Народной Воле» из осведомленных источников, китайцы закупили на витебском ОО «Производственное объединение «Энергокомплект» около сотни километров белорусского кабеля. Якобы для замены китайского: *«Витебский кабель они отправили в Китай, провели какие-то испытания и сделали заключение: мол, по своим характеристикам белорусский кабель еще хуже того, что уже проложен, сопротивление жилы китайского кабеля чуть-чуть меньше, чем витебского. Документы об этом китайцы направили в адрес высокопоставленных белорусских чиновников»*.

Тем временем ситуация с запуском нового завода в Светлогорске попала в поле зрения правоохранительных органов. По нашей информации, проводятся оперативно-следственные мероприятия. Кого в итоге сделают виноватым за срыв запуска завода, видимо, покажет время.

Пока не ясно, и кто ответит за то, что в качестве генподрядчика выбрали компанию, которая раньше вообще не занималась строительством химических производств. И если с кабелем такая беда, то кто даст гарантию, что со всем остальным технологическим оборудованием на этом заводе нет аналогичных проблем?

ДЛЯ СПРАВКИ

*Для строительства завода сульфатной беленой целлюлозы Беларусь в 2012 году привлекла кредит "Эксимбанка" Китая в размере 654,16 миллиона долларов.*

Так, судя по всему, с очищающими сооружениями на Светлогорском ЦКК не все хорошо – с тех пор как на китайском заводе начались пусконаладочные работы, жители близлежащих деревень стали жаловаться на специфический запах: *«Вонь такая, что дышать нечем, как в газовой камере!»*

Объяснения специалистов о том, что, когда завод начнет работать на полную катушку, вони не будет, кажутся странными. Если все сделано безопасно для людей и экологии, то на любой мощности все должно быть идеально! И если китайский генподрядчик не справляется, значит, нужно расторгать с ним контракт и приглашать на работу профессиональных европейских специалистов, имеющих опыт по строительству и запуску подобных предприятий.

Может, так и намерены поступить?

Кто должен нести ответственность за провалы со строительством и запуском завода сульфатной беленой целлюлозы? Ясное дело, что не правительство и точно не вице-премьер **Владимир Семашко**. По нашим сведениям, Семашко как раз был одним из тех, кто занял самую принципиальную позицию в отношении непрофессионализма китайцев.

Строительство завода – зона ответственности гендиректора ОАО «Светлогорский ЦКК» **Юрия Крука** и председателя концерна «Беллесбумпром» **Юрия Назарова**. По самой простой логике, именно они должны были вникать во все нюансы. Это как с ремонтом: и деньги есть, и стройматериалы, но если хозяин не будет контролировать работу строителей, сюрпризы могут быть самыми неожиданными. В данном случае – как с китайским кабелем.

*«В конце концов в руках хозяев стройки главный инструмент – деньги,* – рассуждают эксперты, которые со стороны наблюдают за проблемной стройкой. – *Плохо работают – не платите, пусть исправляют работу. А если приняли работу – нечего потом руками разводить…*

*Лукашенко поставил задачу запустить завод к конкретному сроку. Но не стояло ведь задачи запустить его любой ценой! Самое главное на химическом производстве – надежность и безопасность. Чтобы назавтра не рвануло…»*

Руководство Светлогорского ЦКК ситуацию с заводом сульфатной беленой целлюлозы сегодня не комментирует вообще. Звоните, говорят, пресс-секретарю концерна «Беллесбумпром».

Начальник управления информационных технологий и связей с общественностью концерна «Беллесбумпром» **Ружена Новицкая** сказала «Народной Воле», что пока на заводе *«ничего не происходит»: «Производство закрыто. Генеральный подрядчик еще не вернулся на объект. Идет переговорный процесс по изменениям и дополнениям, стороны согласовывают проект дополнительного соглашения к основному контракту»*.

**Марина КОКТЫШ.**

ПО СЛУЧАЮ



# Почему Юрий Гильдюк заночевал в концертном органе

Об этой истории стоит вспомнить именно теперь: концертному органу Белорусской филармонии исполняется 55 лет, а Юрию Николаевичу Гильдюку, художественному руководителю филармонии, пианисту, заслуженному артисту Беларуси сегодня исполняется 70.

Орган привезли в Минск с чешской фабрики «Ригер Клосс» в шести товарных вагонах. Звонок в филармонию о доставке груза привел тогдашнего директора в ужас: а поместится ли в здание такой большой инструмент?

Да, орган – это музыкальный гигант. То, что мы, зрители, видим из зала, – лишь небольшая его часть. А на самом деле в нем три этажа, 12 метров высоты, 15 метров ширины, 4 – глубины, 10 воздушных мехов, мощные двигатели и 6,5 тысячи труб. Самые маленькие трубы, участвующие в создании сложных регистров, имеют размеры стерженька для шариковой ручки. Самые большие, басовые, – длиной до 8 метров, в охват рук взрослого человека. Но, несмотря на тяжеловесность и большие габариты, орган – инструмент очень нежный и чувствительный.

Пианист Юрий Гильдюк стал художественным руководителем Белгосфилармонии 35 лет назад. Но с органом к тому времени музыкант был знаком, как говорится, изнутри. В прямом смысле слова. Потому что однажды ему довелось ночевать в чреве гиганта.

Было это много лет назад, Юрий Николаевич в то время заканчивал консерваторию (теперешнюю Академию музыки) как пианист и допоздна занимался в одном из классов филармонии со своим профессором. А назавтра в филармонии должен был выступать великий Рихтер. В Минске аншлаг, столпотворение, умопомешательство – билетов не достать. Да и дорого для студента. И Юрий Николаевич принимает тайное экстраординарное решение: заночевать внутри органа (там, оказывается, есть небольшая комнатка для настройщика труб), чтобы утром услышать репетицию великого пианиста хотя бы из-за перегородки.

Удивительно, но ему удалось незамеченным проникнуть внутрь гиганта и остаться-таки на ночь. Студент был так счастлив, что заснул крепким сном. И разбудили его, как вспоминает Юрий Николаевич, петухи – за филармонией в то время были огороды, черемуха, густой частный сектор. А потом донеслись и звуки рояля Рихтера: репетиция маэстро началась, и внутри органа все было прекрасно слышно.

Такие вот музыкальные университеты…

Сегодня художественный руководитель филармонии профессор Юрий Николаевич Гильдюк отмечает две прекрасные даты: 70-летие со дня рождения и 35-летие служения исполнительскому искусству. Естественно, он, как настоящий артист, отметит свои юбилеи на сцене – в кругу друзей, в кругу своих прославленных учеников. В филармонии состоится большой праздничный концерт. И, естественно, будет звучать концертный орган – в своем роде еще одна колыбель известного белорусского педагога и пианиста.

**Елена МОЛОЧКО.**

СКАНДАЛ

# Генадзь Маджара звольнены



У сярэдзіне красавіка некаторыя інтэрнэт-рэсурсы паведамілі аб скандальнай гісторыі, у якую трапіў начальнік РАУС пасёлка Акцябрскі Гомельскай вобласці 41-гадовы **Генадзь Маджара.**

Пісалі, што, знаходзячыся ў Мінску на вучобе, міліцэйскі начальнік у адным са сталічных кафэ перабраў алкаголю, і яго паводзіны вымусілі персанал выклікаць нарад міліцыі. Калі супрацоўнікі Дэпартамента аховы даставілі Маджару ў выцвярэзнік, высветлілася, што затрыманы мужчына ў цывільным – іх калега.

Афіцыйна ніхто гэтую інфармацыю не абверг, але і не пацвердзіў. У прэс-службе Упраўлення ўнутраных спраў Гомельскага аблвыканкама паведамілі толькі, што Генадзь Маджара знаходзіцца на бальнічным, – абавязкі начальніка Акцябрскага РАУС часова выконвае яго намеснік **Сяргей Вараб'ёў.**

Ці меў месца такі інцыдэнт з начальнікам РАУС? Ці працуе сёння на ранейшай пасадзе Генадзь Маджара, які, дарэчы, узначаліў Акцябрскі РАУС толькі ў снежні мінулага года? Раней Маджара працаваў у Лоеўскім РАУС, апошнім часам – на пасадзе намесніка начальніка аддзела ўнутраных спраў. То бок на кіруючых пасадах знаходзіцца працяглы час, няўжо не змог саўладаць са сваімі эмоцыямі і пагарэў на такім глупстве?

У Акцябрскім РАУС Гомельскай вобласці кажуць, што Маджара амаль месяц адсутнічае на працы, пасля красавіцкіх сталічных курсаў яго ў Акцябрскім не бачылі, быў на бальнічным. *"Лечыцца ў Лоеве, не ў нашым пасёлку,* – паведамілі нам у Акцябрскім РАУС. Пра сталічны скандал, галоўнай дзеючай асобай якога мог быць Маджара, яго падначаленыя нічога не гавораць: *"Чуткі мы не каментуем. Афіцыйна нам пра падобны інцыдэнт не паведамлялі"*.

У той жа час на сайце РАУС яшчэ напрыканцы мінулага тыдня Генадзь Маджара значыўся як начальнік РАУС, а ўжо ў панядзелак 14 мая яго прозвішча з сайта знікла. І з'явіўся такі допіс: *"Начальнік аддзела ўнутраных спраў. Вакансія"*. *"Нам нічога не вядома пра лёс Маджары, ніякіх афіцыйных дакументаў у аддзел не паступала,* – так пракаментаваў сітуацыю першы намеснік начальніка аддзела ўнутраных спраў Акцябрскага РАУС **Сяргей Вараб'ёў**. – *Усе пытанні да кіраўніцтва Гомельскага УУС, распрацоўкай сайта мы таксама не займаемся, усю інфармацыю там дае прэс-служба галоўнага ўпраўлення"*.

У прэс-службе УУС Гомельскага аблвыканкама нам паведамілі, што Генадзь Маджара звольнены з пасады начальніка Акцябрскага РАУС Гомельскай вобласці. Якія прычыны звальнення – пра гэта будзе паведамлена пазней.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

НУ І НУ!

# Гей-скандал у раённым аддзяленні Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці?

Незвычайная гісторыя адбылася ў адным з раённых аддзяленняў Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці. Як стала вядома з крыніц сілавых органаў, некалькі супрацоўнікаў СК мелі амурныя пачуцці. Характарам адносін афіцэраў зацікавілася ўпраўленне ўласнай бяспекі Следчага камітэта, і на пачатку мая аператыўнікі заспелі іх у атмасферы жарсці проста ў працоўным кабінеце.

Прынамсі, так сцвярджаюць крыніцы.

А як было насамрэч?

Афіцыйна пацверджана, што некалькі следчых і кіраўнік таго раённага ўпраўлення звольнены.

«У […] упраўленні самастойна прынялі рашэнне і разарвалі адносіны па згодзе бакоў: начальнік і некалькі следчых.

Усе пастаўленыя задачы раённае аддзяленне выконвае ў поўнай меры. Гэта ўсё, я максімальна ясна кажу: супрацоўнікі звольніліся па сваім жаданні», – сказаў «Нашай Ніве» прэс-афіцэр гродзенскага Следчага камітэта **Сяргей ШАРШАНЕВІЧ.**

На пытанне, ці былі ў гэтай сітуацыі элементы скандалу, Шаршаневіч адказваць не стаў, паўтарыўшы, што «ўсё сказана».

Крыніцы ў ведамстве тлумачаць, што фармальна секс на працоўным месцы трактаваўся як парушэнне працоўнай этыкі, кодэкса гонару афіцэраў Следчага камітэта.

Былы начальнік раённага СК не стаў адказваць на пытанне аб прычынах звальнення – кінуў трубку.

Адзначым, што тыдзень таму ўказам прэзідэнта знянацку быў звольнены начальнік Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці генерал-маёр Іосіф Леанко.

(NN.by.)

ЛІЧБЫ

# Мужчыны ў дэкрэце

*У Беларусі ў адпачынку па доглядзе за дзіцем знаходзяцца больш за 3 тысячы мужчын.*



Як паведаміў намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны **Валерый Кавалькоў,** летась іх налічвалася 3169 чалавек. Паводле яго слоў, лічба невялікая з фінансавых прычын – у мужчын большы заробак.

ТРАГЕДЫЯ

## Усе шасцёра дзяцей у рэанімацыі

13 мая пад Камянцом здарылася страшэннае ДТЗ. Украінскі мікрааўтобус "Рэно-Майстар" учыніў спадарожнае сутыкненне з пагрузчыкам "Амкадор". У выніку загінуў 12-гадовы хлопчык. Яшчэ шасцярых дзяцей з траўмамі рознай ступені цяжкасці даставілі ў Камянецкую цэнтральную раённую бальніцу. Украінскія школьнікі вярталіся з Польшчы, дзе бралі ўдзел у спартыўных спаборніцтвах.

Прычым тры мікрааўтобусы з дзецьмі абагналі той жа пагрузчык "Амкадор" раней без здарэнняў. Чаму так атрымалася з чацвёртым аўто, зараз высвятляюць беларускія следчыя. Распачата справа па ч.2 арт.317 КК (парушэнне правілаў дарожнага руху, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека). 42-гадовы кіроўца мікрааўтобуса, жыхар горада Сумы, які перавозіў школьнікаў, затрыманы. Вырашаецца пытанне аб прымяненні ў дачыненні да яго меры стрымання.

А тым часам беларускія медыкі робяць усё магчымае, каб дапамагчы траўміраваным дзецям. Аднаго хлопчыка аперыравалі адразу некалькі брыгад урачоў з Брэста і Мінска. Зараз усе шасцёра дзяцей знаходзяцца ў рэанімацыйных аддзяленнях Брэсцкай абласной бальніцы. Стан двух пацярпелых у ДТЗ пад Камянцом украінскіх школьнікаў на раніцу 14 мая цяжкі, чатырох – сярэдняй ступені цяжкасці, паведаміў БелаПАН галоўны ўрач Брэсцкай абласной бальніцы **Аляксандр Карпіцкі**.

БЕЛАРУСЬ–РАСІЯ

## Тавараабарот вырас

Учора падчас саміту Еўразійскага эканамічнага саюза (ЕАЭС) у Сочы выканаўца абавязкаў памочніка прэзідэнта РФ **Юрый Ушакоў** нагадаў, што тавараабарот РФ і Беларусі ў 2017 годзе вырас на 23,5% і дасягнуў 32,42 млрд долараў, а за першыя два месяцы гэтага года ён павялічыўся на 20,6%. Расія ўтрымлівае першае месца па капіталаўкладаннях у беларускую эканоміку (амаль 4 млрд долараў), адзначыў прадстаўнік Крамля.

У штатным рэжыме, дадаў ён, ажыццяўляюцца пастаўкі ў Беларусь энерганосьбітаў. У мінулым годзе іх аб'ём склаў 19,01 млрд кубаметраў газу і 18 млн тон нафты, у першым квартале бягучага – 6 млрд кубаметраў газу і 4,5 млн тон нафты.

ПРЫСУД

## 22 гады пазбаўлення волі

Уладзіслава Казакевіча суд прызнаў вінаватым у нападзе з нажом на супрацоўнікаў шклоўскай калоніі, у якой 19-гадовы мінчук адбываў пакаранне за напад з бензапілой у ГЦ «Новая Еўропа». Яму прызначана пакаранне ў выглядзе 22 гадоў пазбаўлення волі: 5 першых гадоў Казакевіч правядзе ў турме, астатнія 17 – у калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Як вядома, за напад з бензапілой на людзей у сталічным ГЦ "Новая Еўропа" Казакевіч – тады непаўналетні – атрымаў максімальна магчымае пакаранне – 15 гадоў пазбаўлення волі.

ВОЛНУЮЩАЯ ТЕМА

*ОТ РЕДАКЦИИ*

*Знаем: многие читатели «Народной Воли» по разным причинам пока не дружат с интернетом, а значит, не имели возможности ознакомиться со статьей Юлии Чернявской «День карнавальной войны», появившейся пару дней назад на сайте TUT.by. В ней, заметим, поднимается острейшая тема дня – об агонии тех, кто продолжает слепо идти на поводу совковой пропаганды, подменяющей истинные человеческие ценности суррогатом политиканства.*

*Надеемся, публикация Ю.Чернявской затронет сердца многих почитателей «Народной Воли». Пишите – рады будем продолжить разговор.*

Юлия ЧЕРНЯВСКАЯ

# ДЕНЬ КАРНАВАЛЬНОЙ ВОЙНЫ

## О портретах Сталина на ступеньках филармонии

Ну вот, докатилось и до нас. Я уже писала о том, что бы хотелось изменить в праздновании Дня Победы. Что в святой день надо бы поменьше шума. Что он не только радостный, но и скорбный – поскольку это день поминовения. Что он связан с историей каждой семьи – и отмечать его надо не массовыми гуляниями, не пьяными криками, не взрывами петард, а в своем кругу. Что в этот день (а лучше б не только в этот) надо дать как можно более фактических льгот не только фронтовикам, но и детям войны – последнему поколению, помнящему ее. Ранее я приводила примеры того, как День Победы отмечается в других странах: это не только Великая Отечественная, но и мировая война, у нас нет на нее «монополии», а числом жертв меряться неприлично.




Были надежды на то, что мы придем к более торжественному, более продуманному и более скромному празднованию. Увы, они не оправдались. Вот и на этот раз День Победы оказался не почтительным поклоном перед Трагедией и Победой. Он оказался днем карнавальной войны.

Раньше у нас все-таки не было залихватского «можем повторить!». Не было младенцев, обвязанных гигантской гвардейской ленточкой. Не было детей и мам, «прикольно» выряженных в военную форму. Не было шашлычников в солдатских пилотках и активной продажи этих самых пилоток. Не было в Беларуси таких диких вещей, которыми в минувшую среду порадовал покупателей бобруйский магазин: салатов, оформленных фотографиями погибших героев, и кулинарного «Вечного огня» из желе и сливок.

В кошмарном сне не могли привидеться маленькие портретики Сталина в руках у людей (и отнюдь не пожилых), а главное – большой портрет Сталина, развернутый на ступеньках филармонии. Если я и видела в своей жизни портреты Сталина, то только на лобовых стеклах советского дальнобоя, да еще в 1990-х – в руках озлобленных маргиналов. Тогда было ясно: это агония самого плохого, что было в СССР. Спустя двадцать пять лет оказалось – не агония.

Желание пронести портреты погибших дедов и прадедов по улице понятно, хотя лично мне достаточно вспомнить моего прадеда Василия Максимовича, замученного нацистами в Слуцке, и сестру моей бабушки, расстрелянную вместе с двухлетней дочуркой в Старых Дорогах… Да, люди разные: чья-то скорбь и гордость тиха, чья-то громка и шумлива. Однако нести фотографии своих близких рядом с портретом усатого упыря, уничтожившего половину своей страны, параноика, поверившего разве что другому параноику, который истребил миллионы людей… Люди, развернувшие этот портрет, вы осознаете, что не только нацизм, но и политика Сталина привела к гибели ваших близких? Про пакт Молотова–Риббентропа слышали?

Войну развязал Гитлер, но именно Сталин пересажал своих ведущих военачальников; на пару с Гитлером раскромсал Польшу; именно Сталин спрятался в первые дни (и потому о начале войны объявлял не он, а Молотов); именно он бросал людей без счета на вражеские амбразуры. Оружия было мало – вместо него были людские тела. Люди стали главным оружием, победителями и жертвами – мертвецами, инвалидами, заключенными нацистских лагерей, откуда часть из них перетекла в сталинские: ведь врагами и сообщниками нацистов считали и тех, кто был в плену, и тех, кто остался на оккупированных территориях. А почему они там остались? Не раз убеждалась: некоторые взрослые люди не помнят, не понимают… А потому что, несмотря на песню «Если завтра война, если завтра в поход…», страна была не готова к войне. Ведь война – не только фронт, но и организация эвакуации, например. Долгие годы после войны люди, виноватые только в том, что не смогли пробиться к эшелонам, идущим в тыл, жили с волчьим билетом «был в оккупации», что значило «был пособником врага». Презумпция виновности.

Я не открываю никаких секретов: это общеизвестные факты. Не писала бы о них, если бы и в этот День Победы не увидела: об этом многие забыли.

Ведь как, помня это, нести портреты дедов и прадедов рядом с портретом Сталина?

Недавно была в Грузии. Помню фразу молодого таксиста: «Сталын войну выиграл». Потом он наставительно поднял палец и добавил: «Адын». Но и в Грузии я слышала противоположные мнения куда чаще, чем это. А портрет Сталина видела не на ступеньках филармонии – только на блошином рынке (он продавался за пять лари – пять наших рублей).

Сталин не выиграл войну. Ее выиграли ваши родные. Многие из них потеряли близких в тридцатые годы. А на фронт пошли, потому что умели различать Сталина и свою землю. Неужели те, кто вышел с портретами и портретиками 9 Мая, разучились?

Помню историю отца моей школьной подруги, известного литературоведа. Его арестовали юношей. Он сидел на Володарке. В первые дни войны заключенных вывели из города и расстреляли. Ему удалось спастись. И куда же пошел этот молодой человек? В военкомат, записываться добровольцем. Сражался с врагом, дошел до Берлина. А после войны его нашли и вновь посадили. Помню историю отца моего знакомого: он, сын двух «врагов народа», пошел в военкомат прямо после выпускного в школе. Его выучили на сапера: в смертники он – дитя расстрелянного отца и заключенной в лагерь матери – годился. В первые годы войны ему не давали в руки оружия. Потом дали. Получил ордена, медали. Дошел до Берлина. Сколько подобных историй слышали те, кто давал себе труд слушать рассказы родителей и дедов!

Большинство из современников знает войну по российским сериалам. По лакированным фильмам середины 1970-х, когда Сталина начали тихо реабилитировать – и началось это с кино, в частности, с эпопеи «Освобождение». А фильмы 1960-х вы смотрели? «Хроника пикирующего бомбардировщика», «Женя, Женечка и «катюша», «Баллада о солдате», «Летят журавли», «Белорусский вокзал»… Там и тени Сталина не было. Где «великий» Сталин в «А зори здесь тихие…»? Где – в прозе Василя Быкова, Вячеслава Кондратьева, Бориса Васильева и других лейтенантов той войны? Где – в песнях Окуджавы и Высоцкого: один был фронтовиком, второй – ребенком войны.

Тогда (да и много позже) в голову не пришел бы дикий слоган: «Можем повторить!» Повторить что? Нет, они не имеют в виду – обезвреживать мины под огнем противника, выносить раненых с поля боя, видеть развороченные животы друзей, плакать над похоронками, умирать от голода в блокаду. Победные финалы сериалов – единственное, что они знают о войне. И на этом строится их милитаристское сознание, направленное не на Победу, а на вражду и ненависть.

Как отпраздновали этот день мои знакомые? Кто-то поехал на могилу деда, кто-то повел маму и бабушку в кафе на праздничный обед, кто-то слушал колокольный звон в Хатыни, кто-то выпускал в небо белых голубей на «Яме»… Пели фронтовые песни, смотрели хорошие фильмы о войне, выпивали фронтовые «сто грамм», а не бутылку за бутылкой в разухабистой толпе.

Они не участвовали в «игре в войну», некогда популярной в советских дворах. Теперь в нее играют взрослые: в Сталина – так в Сталина, в солдат – так в солдат. Наряжают в пилотки не только шашлычников, не только детей, но даже и собачек. «По приколу», так сказать. Ну и из того, что они считают «патриотизмом».

Думаю, что пропыленную дорогами войны солдатскую форму имеет право носить только тот, кто ее заслужил; что гвардейская ленточка уместна в качестве медальной ленты только тем, кому была предназначена; что Вечный огонь из желе с кремом и фронтовые фото в обрамлении морковного салата с оливками – невообразимая пошлость даже по нашим временам.

Литературовед и философ Лидия Гинзбург писала: «Пошлость – это, в сущности, искажение ценности, неправильное обращение с ценностью. Пошлость либо утверждает в качестве ценности то, что <…> не ценно, либо унижает ценное, либо ценности, выработанные в недоступной ей культурной среде, применяет не там и не так, как следует; вырывает их из органической связи».

В прошедший День Победы мы наблюдали все эти виды пошлости по принципу «три в одном». Портрет Сталина – это утверждение в качестве ценности не просто не ценного – а преступного. Унижение ценности – это салаты в бобруйском магазине. А ценности, примененные не там и не так, – это и младенец, перепоясанный гигантской гвардейской лентой; и массовые переодевания в военную форму – тех, кто пороха не нюхал. Особенно умиляют семьи, где все члены семейства – от мамы и папы до детишек, включая совсем крошечных, в униформе цвета хаки, а детки постарше маршируют с игрушечными винтовками. Это почтение к погибшим? Нет, это карнавал. Карнавал милитаризации.

9 Мая – день особый: и праздник, и день поминовения. Недаром даже в советское время пелось: «со слезами на глазах». Деды и прадеды его заслужили. Теперь его должны заслужить и мы – памятью сердца, тактом и вкусом.

ОБ АВТОРЕ



***Юлия ЧЕРНЯВСКАЯ** – профессор Белорусского государственного университета культуры и искусств, известный культуролог, педагог, писатель-драматург, автор книг по культурологии.*

*Лауреат Национальной театральной премии.*

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

# «Трэба нешта рабіць, каб быць пачутымі…»

*Актывісткі незарэгістраванага "Матчынага руху 328", якія патрабуюць перагляду судовых рашэнняў у дачыненні да сваякоў, асуджаных па "наркатычных" артыкулах Крымінальнага кодэкса, не сустрэліся з Аляксандрам Лукашэнкам. Затое перадалі ў Адміністрацыю прэзідэнта свой чарговы зварот, у якім утрымліваецца просьба аб асабістай сустрэчы з кіраўніком дзяржавы.*

У мінулым нумары "Народная Воля" распавядала пра тое, што галадоўка, якую трымалі актывісткі "Матчынага руху 328" у Пухавіцкім раёне і Калінкавічах, спынілася. Яе фіналам стаў прыезд галадаючых у Мінск – у Адміністрацыю прэзідэнта.

Пра тое, як прайшла гэтая сустрэча, нам распавядае адна з яе ўдзельніц – **Таццяна Канеўская**:

– *Вы ж разумееце, у Адміністрацыю прэзідэнта нас ніхто не клікаў,* – распавядае жанчына. – *Гэты крок стаў лагічным фіналам нашай галадоўкі. Разлічваць на тое, што нас прыме Аляксандр Рыгоравіч, не выпадала, таму ўсё скончылася на тым, што мы перадалі ў Адміністрацыю свой чарговы зварот. Я асабіста аддала яго ў рукі загадчыку прыёмнай **Ігару Ламаносаву**. Праўда, так і не змагла дабіцца адказу на пытанне, ці чытае гэтыя звароты асабіста Аляксандр Лукашэнка. Ламаносаў толькі лаканічна заўважыў: маўляў, Аляксандру Лукашэнку пра ўсё дакладваюць…*

*Ці задаволена я такім адказам? Хутчэй не, бо не ўпэўнена, што Аляксандру Рыгоравічу дакладваюць пра ўсё аб'ектыўна. Такую выснову можна зрабіць пасля тэлесюжэтаў, якія былі прысвечаны нядаўняй сустрэчы Лукашэнкі са старшынёй Вярхоўнага суда Беларусі **Валянцінам Сукалам**. Там якраз, як вы памятаеце, і абмяркоўваліся справы, па якіх асуджаны нашы дзеці. Мне падаецца, інфармацыя, якую падаў Сукала, скажоная. Таму ў сваім звароце мы выказалі просьбу пра асабістую сустрэчу з Лукашэнкам. Перш за ўсё дзеля таго, каб у яго была аб'ектыўная карціна, а не толькі тая, якую малююць яму ягоныя прызначэнцы.*

*У Адміністрацыі прэзідэнта нам сказалі, што адказ на наш зварот будзе дадзены ў тэрмін ад 15 да 30 дзён. Чакаем.*

Таццяна Канеўская таксама звярнула ўвагу на тое, што ў "Матчыным руху 328" пакуль не ведаюць, якія змены ў Крымінальны кодэкс рыхтуюцца ўладамі. Паводле яе слоў, пасля сустрэчы галадоўшчыц з **Наталляй Качанавай** іх быў гатовы прыняць генпракурор Беларусі **Аляксандр Канюк,** але ў самы апошні момант ім паведамілі, што ён перанёс сустрэчу на нявызначаны тэрмін. Чаму? Ніхто не патлумачыў. І таму, каб пытанне не было спушчана на тармазах, жанчыны вырашылі, што ў краіне будзе працягвацца эстафетная галадоўка. У Калінкавічах яе спынілі, а зараз да акцыі далучыліся жанчыны з Гродзеншчыны – **Людміла Лапко, Алена Мікалюк і Наталля Горбач.**

*"Трэба нешта рабіць, каб быць пачутымі"*, – кажа Таццяна Канеўская.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ТЫМ ЧАСАМ

### Законапраект перададзены дэпутатам

Савет міністраў накіраваў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь праект Закона Рэспублікі Беларусь "Аб змяненні некаторых кодэксаў Рэспублікі Беларусь", – праінфармавалі ў прэс-службе ўрада. Ён змяшчае, у прыватнасці, карэкціроўку арт.328 КК, а таксама значную карэкціроўку Крымінальнага кодэкса па эканамічных складах злачынства.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Правяральшчыкі ў пагонах будуць шастаць па загонах

Час угавораў і разваг пры праверцы сельгаспрадпрыемстваў прайшоў, праваахоўнікі маюць намер прымяняць эфектыўныя меры ўздзеяння на гаспадаркі і арганізацыі, – так заявіў міністр унутраных спраў пасля нарады ў прэзідэнта.

Бесперапынна ў калгасы раней,<br>
Як саранча, налятaлі праверкі:<br>
Важылі цёлак, лічылі свіней,<br>
Крэмзалі грозныя акты-паперкі.<br>
Для старшыні – прачуханка, калі<br>
Падаў надой на палову працэнта.<br>
Тыя праверкі звычайна вялі,<br>
Рыскалі ўсюды чынушы з райцэнтра.<br>
Зараз, як кажуць, другі каленкор:<br>
Той правярацьме, хто носіць пагоны.<br>
…Зранку прыбыў міліцэйскі маёр,<br>
Грозны, бязлітасны позірк ягоны.<br>
Простым чынушам маёр не раўня!<br>
Стала на вушы, як кажуць, кантора –<br>
Гэткі суровы ён. А старшыня<br>
Потым павёз па аб'ектах маёра.<br>
Перш завіталі на ферму яны.<br>
Там правяральшчыку недаспадобы:<br>
Вымазаў гноем службовец штаны,<br>
"Водар" такі, што вылазяць вантробы.<br>
Ён, як бугай, на кароўніку роў:<br>
– Вам, абібокам, хіба невядома?<br>
Сіласам кормяць звычайна кароў.<br>
Тут жа ў кармушках сухая салома!<br>
Іхні наступны прыпынак – мехдвор.<br>
– Тэхніка ваша стаіць на прыколе! –<br>
На старшыню абурыўся маёр. –<br>
Тры калымагі паедуць у поле?<br>
Чым малаціцьмеш, скажы, на жніве?<br>
Вунь пад страхою калекі-камбайны.<br>
Мусібыць, дзеўкі ў тваёй галаве,<br>
А гаспадар ты бязглузды, нядбайны!<br>
Свірны агледзелі, зернетакі…<br>
Не спадабалася ўсюды маёру.<br>
Вынес бязлітасны вырак такі,<br>
Вельмі набліжаны да прыгавору:<br>
– Схібіць калгас на сяўбе-малацьбе,<br>
Мяса не будзе, дык дам я адмашку –<br>
Хлопцы мае залыгаюць цябе,<br>
Трапіш на год або два ў каталажку!<br>
Вечарам познім прыджгаў старшыня,<br>
Быццам сабака пабіты, дахаты:<br>
Як ні круці, але з гэтага дня<br>
Ён назаўжды без віны вінаваты<br>
І сапраўды нізавошта ў турму<br>
Можа патрапіць з падачы маёра.<br>
Млосна было старшыні, і яму<br>
Выпіць крыху захацелася з гора.<br>
Многа не трэба – грамулечак сто,<br>
Ён жа не нейкі апоек адпеты.<br>
Выставіў моўчкі бутэльку на стол,<br>
Жонка пакорна прынесла катлеты.<br>
Чарку кульнуў. І другая пайшла.<br>
Не супыніўся бядак і на пятай.<br>
Так і сядзеў, не ўставаў з-за стала.<br>
Поўня слязой паднялася над хатай.<br>
Думкі-развагі выказваў услых,<br>
Стала яму субяседніцай пляшка:<br>
– Іх бы за плуг, правяральшчыкаў тых,<br>
А павучаць і пакрыкваць няцяжка.<br>
Пнуся, валюся я з ног – і дарма,<br>
Бо гаспадарцы не выбрацца з масткі:<br>
Люд састарэлы і грошай няма,<br>
Каб закупіць трактары і запчасткі.<br>
Сілас закончыўся ранняй вясной…<br>
Скуль яны будуць – надоі і мяса?<br>
Металалом саржавелы ды гной –<br>
Толькі і возьмеш цяпер ад калгаса…<br>
Як засталося гарэлкі на дне,<br>
Ён заявіў субяседніцы-пляшцы:<br>
Чым калупацца мне ў гэтым га…не,<br>
Лепей я год адсяджу ў каталажцы!

### Пенсіі

Адшчыквае пенсіі ўрад па чуць-чуць<br>
Старым, што сагнутыя крукам.<br>
Бабулі ж нямоглыя іх аддаюць<br>
Сваім беспрацоўным унукам…

### Прысароміла

Каханцы калье не купіў кавалер…<br>
Яна прысароміла лоўка:<br>
– У хеўры дзявочай гавораць цяпер:<br>
Мужчына без грошай – сяброўка…

### Тэлефон

Сказаў мне ён<br>
(Даўно не маладзён):<br>
– Выгода – калі маеш тэлефон;<br>
Раскоша – калі маеш два ці тры:<br>
Зайздросцяць некаторыя сябры;<br>
А шчасце і ідылія сама,<br>
Калі ў цябе ніводнага няма…

### Хай здабываюць золата

Каб зборная была на п'едэстале,<br>
Каб поспехі прыносіў нам хакей,<br>
Патрэбны трэнер нам такі,<br>
як Сталін,<br>
І перамогі прыйдуць, як раней.<br>
Тады было паболей дысцыпліны,<br>
Была яна такою, што ого!<br>
Як "золата" не бралі для краіны,<br>
Дык ехалі,<br>
Каб здабываць яго…

СТОП-КАДР



**В минувшую субботу в Минске прошел традиционный международный велокарнавал «Viva Ровар». Велолюбители проехали от стелы «Минск город-герой» по проспекту Победителей до «Минск-Арены» и обратно. Среди тех, кто участвовал в велопробеге, были профессиональные спортсмены, известные белорусы и представители Министерства спорта и туризма Беларуси.**

РЕЗОНАНС

## Удар в солнечное сплетение

Являюсь читателем (подписчиком) «Народной Воли» с первых ее номеров. Не раз приходилось предлагать знакомым прочитать тот или иной материал. Реакция людей понятна. Содержание газеты многопланово, рассчитано на широкий круг интересов. Кого-то больше интересует политическая жизнь, других – культурная, спортивная, международная, духовная и т.д. И хорошо, что читатель с любыми запросами найдет интересующий его материал.

Мне же больше всего импонирует анонсированный в свое время главным редактором тезис о том, что газета будет без оглядки на цвет мундира высвечивать истинную сущность чиновников, так сказать – «государевых людишек», чтобы видно было, кто есть кто. В этом плане особенное удовольствие доставило чтение газеты за 24 апреля, а именно – статей Александра Класковского и Светланы Калинкиной. На мой взгляд, авторы абсолютно правы: не столько чиновники «выносят белорусам мозг», сколько многие люди, как говорят у нас на Полесье, «самохить» (что в переводе – «добровольно, без принуждения») подставляют свои мозги под сильнейший «рентгеновский аппарат» госпропаганды.

Я всегда говорил собеседникам, что в «Народной Воле» можно прочитать то, чего не найдешь ни в одной государственной газете. Публикации вышеупомянутых авторов, да и других всегда актуальны. Они просто поражают глубоким знанием сути поднятых проблем, доказательностью, аргументированностью, высокой гражданственностью, культурой языка, умением убеждать в своей правоте. Один только пример: напоминание властям о деле «Белого легиона» – это удар им в солнечное сплетение. Интересно было бы глянуть сценаристам пропагандистского спектакля в глаза: как они чувствуют себя после того, как многие месяцы, образно говоря, пудрили мозги людям ложью и клеветой?

**Г.С.БУРВАН, житель г.Пинска.**

ОСОБЫЙ СЛУЧАЙ

## Танцы на минах

Уважаемая редакция!

Хочу рассказать историю, связанную с Отечественной войной 1941–1945 годов.

Мой дед Михаил Николаевич Мосейчук прошел всю войну в действующих войсках Красной Армии. Награжден медалями «За освобождение Варшавы», «За освобождение Праги», «За взятие Берлина», орденом Красной звезды, медалью «За отвагу», которую он больше всего ценил. Подтверждение этому – запись в военном бюллетене, который я храню как память о дедушке.

Вернувшись с фронта, дед сразу начал строить дом, так как семья жила, можно сказать, в землянке, так как хата сгорела во время войны. На том месте, где решили строиться, его сын Виктор, которому было десять лет, с друзьями закопал несколько мин и снаряд, которые нашли на поле после боевых действий. Сказать об этом отцу Виктор побоялся, знал, что будет наказан.

Дом достроили, решили на зиму перейти в него жить. Только тогда подросток обо всем рассказал. Долго думали, что делать, и решили жить в «заминированном» доме. Соседи все же вызвали саперов. Но дед не разрешил разминировать, боялся, что мины могут взорваться – и дом разрушится. Так и жили в заминированном доме, в котором родились мои дядья Георгий, Владимир, Михаил.

После войны в деревне не было клуба, танцы устраивали в деревенских хатах. Не раз молодежь приходила к деду Мише и просила разрешить потанцевать в его доме. Дед разрешал, и молодежь с удовольствием плясала. В этом доме справлялись свадьбы, дни рождения, большая родня собиралась на Пасху и Рождество.

Шли годы, все сыновья деда и дочь Мария обзавелись своим жильем. Не стало моих дедушки и бабушки. Дом решили продать. Приезжали покупатели, но соседи говорили, что дом заминирован, поэтому никто не купил. Тогда дядя Витя, тот самый, который закопал боеприпасы, вызвал саперов, указал точное место, и спустя 60 лет после войны дом разминировали. Мины оказались в углу дома, где стояла кровать.

А дом стоит до сих пор как напоминание о страшной войне, а нам, внукам, – о наших дедушке и бабушке, проживших всю жизнь в деревне Куровщина Березовского района Брестской области.

**Владимир КУЛЬ.**

*г.Береза.*

ЯК ЁСЦЬ, ТАК ЁСЦЬ

## «Не жалуюсь я…»

8 мая пайшлі разам з мужам на Камароўку, каб купіць трохі прадуктаў да свята Перамогі. Нашы пакеты аказаліся ладнаватымі, як упакаваліся на століку. Да нас далучылася пажылая кабета – таксама стала зручней укладваць свае пакупкі. Я сказала:

– Вот і прыкупілі трохі да Дня Перамогі – заўтра можна святкаваць.

Жанчына паглядзела на мяне, на майго мужа, потым перавяла позірк на нашы пакеты і сказала, праўда, па-руску:

– На кой … такая Победа, если я без обеда?.. Со своей пенсии я смогла к празднику купить только кости.

Мне стала ніякавата, што нашы пакункі ў параўнанні з яе невялічкім пакецікам з касцямі выглядалі занадна вялікімі.

Я паглядзела на кабету. Яна на мяне. Апранутая акуратненька, вочы задуменныя і сумныя.

– Не жалуюсь я. Просто непонятно, почему я так бедно живу. Пенсии не хватает на всё…

**Ніна ШЫЦІКАВА.**

*Мінск.*

ПАМЯЦЬ

# Злачынствы без тэрміну даўніны

*«Необходим открытый суд над виновниками».*
*Записка И.В.Сталина А.Я.Вышинскому 03.01.1939*
(АП РФ. Ф.3, оп.57, д.96, л.110)

Студзень. На вуліцы сцюдзёна, шэра. Быў першы дзень нашых першых студэнцкіх зімовых вакацый. Мы з сябрам-аднакурснікам трамваем едзем у Зялёны Луг. Напярэдадні ён паабяцаў падчас вандроўкі расказаць вялікі сакрэт. На апошнім прыпынку сыходзім. Праз поле ў лагойскім напрамку моўчкі падымаемся па снезе ў лясок. Прыпыняемся і сябра кажа: «Вось тут у 1937 годзе расстрэльвалі бязвінных людзей...»

Гэта не Курапаты. Ад Курапат гэта месца кіламетрах у трох-чатырох ў паўночна-ўсходнім напрамку, больш нават ва ўсходнім.

Наўкол цішыня. Толькі вершаліны дрэў завываюць...

У першы раз пра расстрэлы 1937–1938 гадоў і лагерныя катаванні людзей я пачуў гада на паўтара раней – летам 1971-га. У Маскве, у парку. Сядзеў на лаўцы, гартаў падручнік, рыхтаваўся да ўступнага іспыту на сацыялагічнае аддзяленне філасофскага факультэта Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Да мяне звярнуўся худы чалавек сталага ўзросту. Пабачыўшы ў маіх руках падручнік «История СССР», сумна заўважыў: «У кніжках пра гэта не пішуць…» Маім суразмоўцам аказаўся былы вязень, рэабілітаваны ў 1956 годзе. Ён расказваў доўга, гадзіны дзве-тры. Яму вельмі хацелася паспець выгаварыцца і – быць пачутым.

Прайшлі гады. Перабудова прынесла грамадству подых свежага паветра. І спадзяванні на лепшае…

Мне пашчасціла пэўны час працаваць на одной кафедры БДУ з кандыдатам гістарычных навук, дацэнтам І.М.Кузняцовым. У Беларусі гэта адзін з нямногіх спецыялістаў, навуковы інтарэс якога сканцэнтраваны на даследаванні рэпрэсій у СССР у 30–50-я гады мінулага стагоддзя. Ігар Мікалаевіч абараніў дысертацыю па азначанай праблематыцы, займае актыўную грамадзянскую пазіцыю, шмат друкуецца. Далёка не ўсім падабаецца тое, аб чым ён піша, але ж праўду не схаваеш, як бы хто гэтага ні жадаў.

Знешнія праявы масавага тэрору 1937–1938 гг. – арышты і расстрэлы вядомых дзеячаў партыі, дзяржавы, навукі, культуры, вайскоўцаў, шматлікія паказальныя працэсы над «шпіёнамі, змоўшчыкамі і шкоднікамі» – адлюстраваны ў гістарычнай літаратуры. Разам з тым другі – прыхаваны – бок медаля, калі сотні тысяч шараговых грамадзян былі рэпрэсаваны па планавых разнарадках, застаецца актуальным да сённяшняга дня. Больш за тое, размова ідзе не толькі пра фіксаванне дадзенага факта, але і пра судова-прававую і грамадскую ацэнку дадзенага злачынства ў кантэксце ўзаемастасункаў дзяржавы і грамадства.

30 ліпеня 1937 г. пад грыфам «Абсалютна сакрэтна» быў выдадзены Аператыўны загад НКУС СССР №00447 «Аб аперацыі па рэпрэсаванні былых кулакоў, злачынцаў і іншых антысавецкіх элементаў». На наступны дзень дадзены загад НКУС СССР быў зацверджаны Палітбюро ВКП(б). Абгрунтаваннем для правядзення ў мірны час фактычна ваеннай аперацыі супраць уласнага народа (планаваму забойству падлягала 75.950 грамадзян СССР, у тым ліку ў Беларусі – 2000 чалавек) быў тэзіс аб абвастрэнні класавай барацьбы падчас будаўніцтва сацыялізму. На правядзенне аперацыі рашэннем Палітбюро ЦК УКП(б) ад 31 ліпеня 1937 г. з рэзервовага фонду савецкага ўрада было выдзелена 75 млн рублёў.

Рэпрэсаваныя падзяляліся на дзве катэгорыі: да першай адносіліся "найбольш варожыя элементы", якія падлягалі неадкладнаму арышту і расстрэлу, да другой – "менш актыўныя, але ўсё ж варожыя элементы", якія таксама падлягалі арышту і зняволенню ў лагеры ці турмы на




тэрмін ад 8 да 10 гадоў.

На правядзенне аперацыі адводзілася чатыры месяцы. Пачатак яе расстрэльнай часткі – 5 жніўня 1937 года.

Парадак вядзення следства прадугледжваў складанне следчай справы, якая надалей разглядалася «тройкай». «Тройкі» не былі падсправаздачныя пракуратуры. Рашэнні «тройкі» былі канчатковымі і падлягалі неадкладнаму выкананню. Аб смяротных прысудах і іх выкананні не паведамлялася ні сваякам (ім, згодна з прынятым парадкам, паведамлялі пра прысуд да «10 гадоў без права перапіскі»), ні тым больш у друку. Мясцовым кіраўнікам НКУС прадпісвалася трымаць у «жэстачайшым» сакрэце час і месца расстрэлу (ці не ў гэтым адказ на пытанне, чаму да гэтага часу вядомы далёка не ўсе месцы расстрэлаў людзей?!). Пратаколы «троек» і следчыя справы «ворагаў народа» накіроўваліся на імя начальніка 8-га Аддзела ГУДБ НКУС СССР у Маскву. Быў зацверджаны пяцідзённы тэрмін прадастаўлення справаздач: 1, 5, 10, 15, 20 і 25 чысла кожнага месяца.

Беларусь стала адной з першых ахвяр сталінскіх рэпрэсій. Рэпрэсіўны механізм уключаў палітычнае абгрунтаванне расстрэльных дзеянняў, заканадаўчую базу, сістэму судовых, пазасудовых органаў, папраўчых лагераў. У вір рэпрэсій трапілі прадстаўнікі інтэлігенцыі, сялянства, рабочыя. Асабліва «дасталася» Акадэміі навук (было рэпрэсавана 26 акадэмікаў і 6 членаў-карэспандэнтаў) і Саюзу пісьменнікаў Беларусі (рэпрэсавана больш за палову яго членаў).

Росквіт рэпрэсій у Беларусі прыйшоўся на перыяд «масавай рэпрэсіязацыі». Са жніўня 1937-га па сярэдзіну 1938 года ў Беларусі было расстраляна 2570 чалавек. Сярод іх 40 наркамаў і іх намеснікаў, 179 кіруючых работнікаў савецкага і гаспадарчага апарату, 41 выкладчык ВНУ…

Самае жахлівае, што ў 1937–1938 гадах людзей у Беларусі расстрэльвалі па плане. Больш за тое, мясцовае кіраўніцтва не раз прасіла Маскву лічбы планавых расстрэлаў павялічыць. Гэта не выдумка і не казкі. Гэта жахлівая рэчаіснасць.

Усяго ж за перыяд з лістапада 1917-га да красавіка 1953 года ў Беларусі за «контррэвалюцыйныя злачынствы» да выключнай меры пакарання было прыгаворана 35.868 чалавек. Абсалютная большасць гэтых людзей была расстраляна беспадстаўна, аб чым сведчаць дакументы па іх пазнейшай рэабілітацыі. У Беларусі за перыяд з 1954-га да пачатку 2000 года рэабілітавана звыш 200 тыс. ахвяр сталінскіх рэпрэсій. І рэабілітацыя працягваецца. Аб тым, як «выбівалі» з людзей, пастаўленых на «ахвярны» канвеер, патрэбныя паказанні і прызнанні, асобная гаворка. Як і пра тых, хто быў сасланы ў лагеры Сібіры, Урала, Далёкага Усходу і там адбываў пакаранне.

Прозвішчы галоўных катаў беларускага народа вядомы: наркамы НКУС БССР **Г.А.Малчанаў, Б.Д.Берман, А.А.Наседкін, Л.Ф.Цанава** ды іншыя.

Азнаёміўшыся з вынікамі і матэрыяламі рэпрэсій, што адбываліся ў 1937–1938 гг., 3 студзеня 1939 г. І.В.Сталін уласнаручна напісаў Генеральнаму пракурору СССР А.Я.Вышынскаму: «Необходим открытый суд над виновниками» (АП РФ, Ф.3, воп.57, спр. 96, стар. 110).

Беларускія ўлады замоўчваюць адказнасць катаў за расстрэлы людзей.

Можа, хтосьці здольны паказаць мне сёння могільнікі, у якіх ляжаць ахвяры рэпрэсій, у Барысаве, Оршы, Мінску, Віцебску, Магілёве, Бабруйску, іншых гарадах Беларусі? Іх няма. Чаму? Дзяржава расстраляла тысячы бязвінных людзей і да сённяшняга дня працягвае займаць «страусіную пазіцыю», хаваючы месцы забойстваў. Падабаецца гэтая пазіцыя? Чаго баіцеся?

Менавіта Сталін у 1933 г. абвясціў тэзіс аб абвастрэнні класавай барацьбы па меры будаўніцтва сацыялізму і неабходнасці вынішчэння нязгодных. Менавіта ён з'яўляецца аўтарам і галоўным каардынатарам ажыццяўлення трыяды "калектывізацыя–індустрыялізацыя–рэпрэсіязацыя". Менавіта дзякуючы яму была запушчана дзяржаўная машына па вынішчэнні грамадзян, па здзеку з людзьмі і іх душ. Нявінных жорстка катавалі, забівалі, прымушалі пісаць хлусню адзін на аднаго. Грамадства на доўгія гады запраграмавалі на адчуванне пастаяннага страху. Людзі кладліся спаць і не ведалі, сёння ноччу прыедзе за імі «чорны воран» ці заўтра. Людзі жылі ў боязі за свой заўтрашні дзень. Гэты стан страху застаецца да сённяшняга дня. У цывільным грамадстве такое непрымальна, недапушчальна і недаравальна! Грамадства павінна казаць аб гэтым услых, крычаць аб гэтым злачынстве! І дзейнічаць – дзеля памяці, дзеля сваіх дзяцей, дзеля іх спакойнай, мірнай будучыні.

Павінен адбыцца суд, бо беспакаранасць злачынцаў – падстава для новых злачынстваў.

Сталіністы і іх прыхільнікі жывуць сярод нас. Яны аж млеюць па "жалезнай руцэ" і "ўзорным парадку". Для іх галоўнае, каб імі хтосьці кіраваў і даваў штодзённую «пайку». Яны жадаюць і сёння паставіць усіх, хто не згодны з іх сацыяльнымі каштоўнасцямі, «у радок» і кулямётам распавесці свінцовую казку пра шчаслівую будучыню…

Павінен адбыцца суд – чалавечы і юрыдычны.. Суд ачышчэння. Ніхто нікому ніколі не даваў права знішчаць другога чалавека толькі за тое, што ён чалавек. Сталінізм знішчыў мільёны людзей. І ён павінен быць пакараны.

Студзень 1973 года. Надвячорак. На вуліцы імжыць колкі снег. Мы моўчкі вяртаемся з сябрам у інтэрнат.

Хопіць маўчаць!

**Васіль РУСОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук, дацэнт.**

ПУЛЬС

## Почему подорожала нефть?

На фоне сообщений о подготовке американских санкций против Ирана цены на нефть закрепились на самом высоком за последние годы уровне. В Bank of America ожидают, что в обозримой перспективе будет преодолен барьер в 100 долларов за барель, – сообщает Bloomberg. Для некоторых стран-потребителей этот рост может оказаться болезненным.

## О чем будут говорить Трамп с Ким Чен Ыном?

Как известно, лидеры США и Северной Кореи встретятся в Сингапуре 12 июня. До сих пор ни один действующий президент США не встречался лично с руководителем КНДР.

Помощник Трампа по национальной безопасности Джон Болтон сообщил, что будет обсуждаться на встрече: «Для Северной Кореи откроются невероятные (экономические) перспективы в случае ее обязательства избавиться от ядерных вооружений. Именно об этом заявит президент США Дональд Трамп на встрече с лидером КНДР». «Остается только удостовериться, на что способен и готов сам Ким Чен Ын», – добавил Болтон.

## Лидируют шииты

Сотни сторонников шиитского проповедника Муктады ас-Садра вышли на улицы Багдада в воскресенье вечером, чтобы отметить публикацию предварительных результатов парламентских выборов в Ираке. Победа коалиции ас-Садра станет серьезным ударом по кампании за переизбрание действующего премьер-министра Хайдера аль-Абади.



Если возникшее соотношение сил сохранится, то решающее слово в вопросе о том, кто станет следующим лидером Ирака, может оказаться у ас-Садра, который является резким критиком США.

Избирательная комиссия сообщила, что результаты выборов в 329-местный парламент ожидаются во вторник.

ЛЮБОПЫТНО

# Жена Лужкова, зять Кравчука…

*В списке богатейших людей Британии 16 выходцев из бывшего СССР. Times опубликовала ежегодный список тысячи богатейших людей Британии.*

Итак, кто они, эти выходцы из бывшего СССР, и на каких местах в списке они оказались?

### Леонид Блаватник (также известный в Великобритании как сэр Лен Блаватник)

Блаватник занимает в списке Sunday Times 3-е место. Газета оценивает его состояние в 15,2 млрд фунтов стерлингов (20,6 млрд долларов). Деньги Блаватник зарабатывает на инвестициях, в частности, в компанию «Ренова», а также на музыкальной индустрии и СМИ.

Леонид Блаватник родился в Одессе, учился в Москве на одном курсе вместе с Виктором Вексельбергом. В 1978 году вместе с семьей эмигрировал в США.

Сейчас Блаватник постоянно проживает в Лондоне. В 2010 году он стал британским гражданином.

Блаватник активно занимается благотворительностью, за что в 2017 году был возведен в рыцари.

### Алишер Усманов



Усманов находится в списке Sunday Times на 8-м месте. Его состояние оценивается в 10,5 млрд фунтов (14,2 млрд долларов). По сравнению с прошлым годом оно уменьшилось на 1,2 млрд фунтов.

Основные средства Алишера Усманова вложены в «Металлоинвест» – один из крупнейших горно-металлургических холдингов России. Он также является крупным акционером российского мобильного оператора «МегаФона». Усманову также принадлежит 30% акций лондонского футбольного клуба «Арсенал».

Алишер Усманов живет в Саттон-Плейс в графстве Суррей, в поместье эпохи Тюдоров, некогда принадлежавшем американскому нефтяному магнату Полу Гетти.

### Роман Абрамович

Как и в прошлом году, Роман Абрамович остается на 13-м месте в списке Sunday Times. Газета оценивает его состояние в 9,3 млрд фунтов стерлингов (12,6 млрд долларов) – на 1,2 млрд долларов больше, чем в 2017 году.

Абрамовичу принадлежат пять домов: два в Британии, два в американском штате Колорадо и один на острове Сен-Бартелеми. Он также владеет второй по величине в мире яхтой Eclipse, частным самолетом Boeing-767 и огромной коллекцией произведений искусства.

В 2017 году получил право проживать на острове Джерси в проливе Ла-Манш на правах особо важного резидента.

### Владимир Ким

В списке Sunday Times Владимир Ким занял 93-е место. Его состояние оценивается газетой в 1,4 млрд фунтов стерлингов (1,9 млрд долларов), что на 790 миллионов фунтов больше, чем в 2017 году.

Ким – президент и крупный акционер группы KAZ Minerals, которая занимается добычей и переработкой цветных и драгоценных металлов, а также президент холдинга «Казахмыс». KAZ Minerals базируется в Лондоне.

Владимиру Киму 57 лет. Насколько известно, у Кима есть квартира в центре Лондона в здании One Hyde Park, где самое дешевое жилье стоит 20 миллионов фунтов. Часть времени он проводит в Алматы.

### Евгений Швидлер

Евгений Швидлер, как и в прошлом году, занимает 125-е место в списке Sunday Times. Его состояние оценивается в 1,1 млрд фунтов (1,5 млрд долларов).

Швиндлер – друг детства и давний деловой партнер Романа Абрамовича.

Известен тем, что не любит зря тратить деньги.

### Андрей Андреев

44-летний интернет-гуру за год поднялся в списке Sunday Times с 184-го на 136-е место. Его состояние газета оценивает в миллиард фунтов (1,3 млрд долларов).

Как пишет газета, 44-летний Андреев осчастливил миллионы людей по всему миру, создав в сети сайт знакомств Badoo. Андреев родился и вырос в Москве, не окончил университет, стал миллионером в 2003 году, продав рекламный сайт Begun.

Из России Андреев уехал в 18-летнем возрасте. С 2005 года живет в Лондоне.

### Владимир Махлай

80-летний Владимир Махлай делит с Андреевым 136-е место.

Он 15 лет возглавлял компанию «Тольяттиазот». В мае 2011 года ушел на покой. Компанией сейчас руководит его сын Сергей.

Махлай был объявлен в России в розыск и уехал в Великобританию, попросив там убежища.

### Виктор Пинчук



Sunday Times оценивает состояние украинского промышленника инвестора и зятя бывшего президента Украины Леонида Кучмы в миллиард фунтов. Он занимает в списке 136-е место вместе с Андреевым и Махлаем.

Пинчуку также принадлежит лондонская инвестиционная группа EastOne.

### Елена Батурина

В списке Sunday Times супруга бывшего мэра Москвы Юрия Лужкова Елена Батурина заняла 160-е место. Газета оценивает ее состояние в 882 млн фунтов (1,1 млрд долларов) – на 60 миллионов больше, чем в 2017 году.

Вершины своего финансового успеха Батурина достигла в 2008 году, когда ее состояние достигало 2,6 млрд фунтов, но с тех пор денег у нее стало несколько меньше.

В 2011 году она продала две свои основные компании за 1,2 млрд фунтов.

Сейчас ей принадлежит сеть отелей в России, Ирландии, Чехии и Австрии. Она также инвестирует в возобновляемые источники энергии на юге Европы и приобрела 75% акций германской строительной компании.

Батурина живет в поместье в графстве Гемпшир площадью 5500 гектаров. У нее одна из самых больших в мире коллекций изделий Императорского фарфорового завода.

### Геннадий Боголюбов

56-летний украинский банкир занял в списке Sunday Times 251-е место.

Его состояние сократилось за год почти вдвое, с 500 до 245 миллионов фунтов, после того как власти Украины национализировали крупнейший частный банк страны «Приват-банк», которым он владел совместно с Игорем Коломойским.

Доля Боголюбова в «Приват-банке» составляла 40%.

С 2016 года Боголюбов, живущий в фешенебельном лондонском районе Белгравия, судится в Британии с Виктором Пинчуком из-за собственности на украинское месторождение железной руды.

### Андрей Бородин и Татьяна Корсакова

Бывший президент «Банка Москвы» и его жена, экс-модель и дизайнер одежды, владеют, по данным Sunday Times, состоянием в 410 миллионов фунтов. Ранее в список они не входили.

В 2013 году российские власти выдвинули против Бородина обвинения в финансовых махинациях. Он объявил их политически мотивированными и связал со своей близостью к Лужкову, незадолго до этого лишившемуся поста столичного мэра. Британские власти предоставили ему политическое убежище.

### Алекс Герко

38-летний математик из России впервые вошел в список Sunday Times, заняв в нем 772-е место.

Свой капитал в 150 миллионов фунтов он заработал на валютных операциях в качестве одного из партнеров британской инвестиционной компании GSA Capital Partners, куда перешел из Deutsche Bank в 2009 году, и основателя базирующейся в лондонском районе Мэйфер трейдинговой компании XTX Markets.

В ней Герко принадлежит 75% акций.

### Ирина Маландина

51-летняя бывшая стюардесса «Аэрофлота» и вторая супруга Романа Абрамовича получила от мужа в ходе бракоразводного процесса 155 миллионов фунтов, в том числе дом и 600 гектаров земли в Западном Сассексе стоимостью 18 млн фунтов.

Спустя 10 лет Sunday Times оценила ее состояние в 160 миллионов фунтов и определила на 772-е место в списке богачей Британии.

### Евгений Чичваркин



43-летний основатель «Евросети», начинавший в 1990-е годы с мелкой торговли на московских вещевых рынках, оказался в списке на 964-м месте с капиталом в 118 миллионов фунтов. С прошлого года его размер практически не изменился.

В сентябре 2008 года полиция провела в центральном офисе «Евросети» обыск по делу о незаконном давлении, якобы оказанном пятью годами ранее службой безопасности компании на экспедитора, обвиненного в краже телефонов.

Примерно через месяц Чичваркин продал компанию, а в декабре уехал в Лондон, где назвал случившееся вымогательством. Спустя считанные дни Следственный комитет возбудил против него уголовное дело. Хотя в январе 2011 года оно было прекращено, возвращаться в Россию Чичваркин не пожелал.

В настоящее время он открывает на Пикадилли трехэтажный ресторан с самой большой в Лондоне винной картой и знаменитым французским шеф-поваром Олли Дабу.

Для сравнения: **королева Британии ЕЛИЗАВЕТА II** заняла 344-е место в списке Sunday Times.

Ее личное состояние оценивается в 370 миллионов фунтов. За последний год оно увеличилось на 10 миллионов благодаря росту цен на недвижимость.

Букингемский дворец и Виндзорский замок принадлежат государству, как и хранящиеся в Тауэре драгоценности – крупнейшая в мире коллекция такого рода.

В личной собственности королевы находятся поместья Сандрингем в Норфолке и Балморал в Шотландии, доля современного офисного центра «Сент-Джеймс маркет» в центре Лондона, акции британских компаний на сумму примерно в 110 миллионов фунтов, автомобили, ювелирные изделия и более 100 лошадей, которые за последние 30 лет, по данным СМИ, заработали на скачках около 7 миллионов фунтов. При этом королева славится бережливостью.

НА ДАЛОНЯХ ВЕЧНАСЦІ

Анатоль БУТЭВІЧ




# Астрожскія

Астрожская друкарня. Астрожская Біблія. Астрожская школа. Астрожскі напеў. Астрожская навука перамагаць... Гэтыя азначэнні трывала замацаваліся ў гісторыі Вялікага Княства Літоўскага за знакамітым магнацкім родам Астрожскіх герба «Астрога». Буйныя землеўласнікі ў Беларусі і ва Украіне, яны паходзілі з пінскіх і тураўскіх князёў. Родапачынальнікам лічаць князя Данілу, уладальніка горада Астрог, што на Валыні. Гэтым тлумачыцца паходжанне прозвішча. Яго сын Фёдар лічыўся прыхільнікам караля польскага Ягайлы. Пад імем Феадосія быў манахам Кіева-Пячорскай лаўры. Далучаны да ліку святых, уваходзіць у Сабор беларускіх святых з 2002 года.

Род згас у 1620 годзе, калі памёр сын Канстанціна Васіля Януш, які быў ваяводам валынскім, кашталянам кракаўскім. Пры жыцці Януш правёў праз польскі сейм рашэнне аб утварэнні Астрожскай ардынацыі. Так называлася непадзельная ўласнасць роду, у якую ўваходзілі зямля, лясы, гарады, мястэчкі, вёскі, мануфактуры, а права на спадчыну вызначалася спецыяльным статутам – ардынацыяй. Пасля смерці Януша Астрожскага ардынацыя перайшла да яго зяця князя Аляксандра Заслаўскага.

Сярод асветнікаў, дзяржаўных і палітычных дзеячаў найбольш вядомы і слаўны гетман найвышэйшы літоўскі, кашталян віленскі, маршалак валынскай зямлі, член Рады ВКЛ Канстанцін Іванавіч Астрожскі (1460–1530). Гэта адзіны праваслаўны князь, які стаў віленскім кашталянам і трокскім ваяводам, бо высокія пасады тады маглі займаць толькі каталікі. Быў руплівцам на ніве праваслаўнай асветы, галоўным апекуном праваслаўнай царквы. Выступаў фундатарам мураванага сабора ў Навагрудку, цэркваў у Вільні, Смалявічах, Дзятлаве і іншых.

Быў сынам Івана Васільевіча Астрожскага, празванага Красным. А праз сваіх жонак парадніўся яшчэ з двума знакамітымі родамі. Першай жонкай была княгіня Тацццяна Гальшанская, другой – Аляксандра Слуцкая з роду Алелькавічаў.

Праславіўся Канстанцін Іванавіч найперш сваімі ратнымі подзвігамі. У канцы XV – пачатку XVI стагоддзя яму не было роўных у бітвах з ворагамі Княства. Больш за шэсцьдзясят перамог атрымаў выдатны палкаводзец. У 1511 годзе на Берасцейскім сейме ВКЛ яго надзялілі неабмежаванай уладай на час ваенных дзеянняў. Усяго два паражэнні зведаў за жыццё, якія, аднак, не зменшылі ягонай славы і вядомасці. У Еўропе Канстанціна Іванавіча называлі Ромулам, рускім Сцыпіёнам, другім Ганібалам...

Галоўнакамандуючы карфагенскай арміі Ганібал вядомы ў сусветнай гісторыі як адзін з найвялікшых палкаводцаў старажытнасці і знаны дзяржаўны дзеяч. І вось амаль праз дзве тысячы гадоў другім Ганібалам назвалі вышэйшага гетмана літоўскага, які гэту пасаду атрымаў у 37 гадоў, Канстанціна Іванавіча Астрожскага.

Яго сын Канстанцін Васіль (1527–1608) стаў славутым асветнікам, царкоўным, ваенным і дзяржаўным дзеячам. З 1533 года і да апошніх дзён быў кіеўскім ваяводам. Нарадзіўся ў старажытным Тураве, якім Астрожскія валодалі з 1508 года. Лічыўся адным з багацейшых магнатаў Княства. Меў у сваім валоданні 670 вёсак, 10 мястэчкаў, 25 гарадоў. Ад іх атрымліваў кожны год звыш аднаго мільёна злотых. Нават па тагачасных мерках гэта было нямала. Багацці, аднак, траціў з розумам. У сваім валынскім мястэчку Астрог, што над ракой Гарынь, заснаваў славяна-грэка-лацінскую акадэмію, дзе вучыліся і дзеці праваслаўных. Акрамя абавязковых прадметаў навучэнцы грунтоўна займаліся музыкай і харавымі спевамі. Вось чаму ў свой час быў шырока вядомы так званы астрожскі напеў.

На ўласныя сродкі Канстанцін Васіль стварыў пры Астрожскай акадэміі друкарню. Тут Іван Фёдараў прадоўжыў традыцыі беларускага і ўсходнеславянскага першадрукара Францыска Скарыны. Найбольш вядомай стала першая кірылічным шрыфтам надрукаваная поўная Біблія, названая Астрожскай. Удзел у яе падрыхтоўцы браў сам князь. Цяпер на месцы друкарні стаіць помнік у выглядзе разгорнутай кнігі. Сярод вядомых асветнікаў на яе старонках значыцца прозвішча Андрэя Рымшы – беларускага паэта, заснавальніка жанру панегірычнай паэзіі. Ён выдаў тут на беларускай мове паэтычны твор «Храналогія» – першы друкаваны каляндар.

Канстанцін Васіль меў цесныя сувязі з рускім князем Андрэем Курбскім, які ўцёк з Масквы ад цара Івана Грознага і жыў у падараваным яму Крэўскім замку. Канстанцін Васіль выступаў за ўмацаванне праваслаўя, падтрымліваў праваслаўныя брацтвы, заснаваў каля 600 цэркваў, 20 манастыроў, школы ў Тураве і Слуцку. За заслугі дабравернага князя Канстанціна Васіля ў справе асветніцтва і падтрымку праваслаўя 2008 год у Беларусі быў названы годам Астрожскага. Выпушчана паштовая марка да 400-годдзя з дня яго смерці.

СТОП-КАДР

## Азиатские буйволы блокировали немецкий автобан

Эта фотография была сделана утром в понедельник 14 мая на автобане А3 в районе немецкого города Леверкузена.

Как сообщает агентство dpa, накануне вечером эти пять буйволов убежали с расположенного неподалеку огороженного пастбища и каким-то образом попали на проезжую часть скоростной автомагистрали, причем на участок с одним из самых интенсивных потоков в Германии. Утром движение на трассе было остановлено, что привело к многокилометровым пробкам. Чтобы убрать животных с автобана, на место были вызваны ветеринары из соседнего Кельнского зоопарка со специальными шприцами для наркоза.




ФАКТ

## Рекордное число россиян заявили об изоляции страны

Число россиян, считающих, что их страна находится в международной изоляции, достигло максимальных до сих пор показателей (56 процентов). Это следует из опроса социологического института «Левада-центр».

Количество тех, кого беспокоит такое положение, выросло за минувший год сразу на 12 процентных пунктов, хотя таких людей все еще заметно меньше, чем сохраняющих спокойствие: 37 против 56 процентов. Также на 12 процентных пунктов (с 66 до 54) снизилось число респондентов, считающих, что России следует укреплять связи с Западом.

Одновременно растет количество негативных оценок Запада в целом и уменьшается количество положительных, хотя большинство респондентов – 40 процентов – полагает, что к странам Запада в России относятся без особых чувств. К России же на Западе, по мнению россиян, относятся в основном со страхом (25 процентов), тревогой (21 процент) и презрением (16 процентов).

СУСЕДЗІ

## У Літве прапануюць забараніць георгіеўскія стужкі

Дэпутаты ад кансерватыўнай партыі «Саюз Айчыны – Хрысціянскія дэмакраты Літвы» ўнеслі ў Сейм прапанову аб забароне выкарыстання георгіеўскай стужкі на масавых мерапрыемствах. Калі ініцыятыва будзе ўхвалена, выкарыстанне георгіеўскай стужкі падчас публічных мерапрыемстваў альбо яе нашэнне стане адміністрацыйным правапарушэннем.

Паводле слоў А.Ажубаліса, які быў адным з ініцыятараў прапановы, яна ўнесена з улікам новых геапалітычных рэалій, выклікаў для нацыянальнай бяспекі, а таксама для таго, каб «*абараніць такія важныя прынцыпы і каштоўнасці, як суверэнітэт, свабода і дэмакратычная сістэма*».

«*Літве няма чаго святкаваць, таму што канец гэтай вайны прынёс Літве 50 гадоў савецкай акупацыі, боль і ссылкі. А цяперашняе расійскае кіраўніцтва адмаўляе і не згаджаецца асудзіць злачынствы сталінскіх рэпрэсій і таталітарнага рэжыму*», – кажа А.Ажубаліс.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
15 МАЯ 2018 г.

УСПАМІНЫ

# АКУПАЦЫЯ

(чэрвень 1941 – ліпень 1944 г.)



Леанід ЛЫЧ, прафесар, доктар гістарычных навук

*Прысвячаю землякам-магілянам часоў вайны і нямецкай акупацыі.*

*(Працяг. Пачатак У №№31–38.)*

## Чаму я не стаў сынам старасты

По ўказанні цывільнай адміністрацыі Вузды дзесьці на пачатку жніўня 1941 года і ў Магільным стала нешта такое ствараецца накшталт мясцовага самакіравання. Пачалі з абрання старасты, каб забяспечваў належны парадак у мястэчку. Для людзей старэйшага ўзросту гэта не было якойсьці зусім незвычайнай з'явай. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года такая выбарная пасада існавала. Меркавалі, што звязаныя з выкананнем яе абавязкі ўскладуць і пры немцах на старасту. Многіх дзяцей, у тым ліку і мяне, прасілі прайсці па хатах, заклікаючы людзей з'явіцца ва ўмоўленае месца на сход. Сабралася мала, таму вырашылі правесці сход па абранні старасты ў наступны дзень, добра падумаўшы, каму можна даручыць выкананне гэтых абавязкаў. Камуністам такога не давяралі.

На наступны дзень на вуліцы Кавалёўскай каля хаты лесніка Волеся Дзесюкевіча тоўпілася дастатковая колькасць дарослых местачкоўцаў. Хапала і дапытлівых дзяцей. Пасля трох-чатырох прапанаваных і тут жа адхіленых кандыдатур раптам я пачуў, што на старасту вылучаюць майго тату. Абгрунтоўвалі гэта яго неблагім для нашага мястэчка ўзроўнем адукацыі, справядлівасцю, бесканфліктнасцю.

– З сынам дзядзькі Міхася Лёнем, – прарваўся зычны голас Ванькі Матусевіча, – мы вазілі сена і снапы. За вагаўшчыка на конскіх вагах працаваў дзядзька Міхась. І хоць ён ведаў, што маім памочнікам быў яго сын Лёня, ні разочку нават 50 кілаграмаў не дадаў да вагі воза, каб мы больш працадзён зарабілі.

Удзельнікі сходу змоўклі, трохі задумаліся, бо нехта сказаў, што Міхась дрэнна сябе адчувае. Так гэта ці не, папыталіся ў мяне, а затым паслалі дамоў даведацца ў самога таты, ці згодны ён, ці ёсць у яго сілы пры абранні працаваць за старасту. Тата катэгарычна адмовіўся, што зусім не абрадавала мяне. Людзі гэтак хвалілі яго, што не магло не цешыць маю душу, і тут на табе – катэгарычная адмова. Я абяцаў тату, што там, дзе будзе патрэбна, прыйду на дапамогу. Апошняе татава слова:

– Не. Няма здароўя.

З такім паведамленнем і вярнуўся я да людзей. Іх гэта моцна расчаравала. Папрасілі нашага суседа з процілеглага боку Кавалёўскай вуліцы Адама Дзесюкевіча на працягу некалькіх дзён часцей наведваць Міхася, добра разабрацца са станам яго здароўя і, калі яно дазваляе, настойліва схіляць да згоды ўзяць на сябе адказныя абавязкі старасты. Справа да гэтага не дайшла, бо тата рашуча адмаўляўся ад такой прапановы, спасылаючыся на хваробу. Дзесьці праз пяць дзён за старасту абралі адзінокага чалавека, даваеннага брыгадзіра мясцовага калгаса Рыгорку Цыбульскага. З людзьмі ён умеў працаваць, стараўся, каб усім было добра ў той цяжкі час. Знаходзіўся на пасадзе трохі больш за паўгода, калі ўжо патаемна, невялікімі групамі ў мястэчку пачалі з'яўляцца партызаны. Рыгорку гэта нікольк не палохала, бо лічыў, што за старасту стаў, каб не акупантам ці партызанам служыць, а агульнамагільнянскай справе. Таму ён не падабаўся ні першым, ні другім. Загінуў ад рук акупантаў. Не сумняваюся, што такі трагічны лёс напаткаў бы і майго тату. І загінуў бы не адзін ён, а яго жонка і пяцёра дзяцей. Во якім паратункам паслужыла ўсім нам цяжкая хвароба таты!

Пазней пад уплывам бальшавіцкай ідэалогіі ў нас старастаў амаль без усялякага выключэння сталі называць ворагамі народа, апраўдваць іх забойства партызанамі. Гэта крайне несправядліва. Людзі абіралі старастамі найлепшых з лепшых, бо хацелі ў іх асобе мець сабе надзейную апору. Менавіта з такім колішнім старастам давялося мне сустрэцца на пачатку 1950-х гадоў, калі працаваў аператыўным упаўнаважаным у адной з калоній на тэрыторыі Тайшэцкага раёна Іркуцкай вобласці. Гэты ўкраінец па прозвішчы Шаўчэнка адказваў за чысціню майго кабінета. Старастам адной з вёсак Кіеўшчыны яго абралі аднагалосна і не памыліліся. Аднавяскоўцы любілі яго і давяралі яму. Затое, як вярнулася савецкая ўлада, атрымаў 10 гадоў турэмнага зняволення. У лагеры з усімі размаўляў толькі па-ўкраінску. На маё пытанне "Чаму не стараецеся авалодаць рускай мовай? Вы ж знаходзіцеся на тэрыторыі Расіі?" адказ атрымаў арыгінальны, варты памяці і пераймання (адказваў ён па-украінску):

– Калі б я сюды трапіў па ўласнай волі, абавязкова стараўся б авалодаць рускай мовай. Этапавалі ж мяне сюды гвалтам з Украіны, таму не хачу ёй ні ў чым здраджваць, у тым ліку і ў мове.

Дык ці можна такіх старастаў называць ворагамі народа?

***

Калі скончылася вайна і я з гадамі станавіўся больш сталым, пачынаў усё часцей задумвацца, а ці сапраўды хвароба таты з'яўлялася галоўнай прычынай яго рашучай адмовы абрацца старастам. Вялікага ж фізічнага і разумовага напружання гэта не патрабавала. Пры неабходнасці можна было абаперціся на местачковы актыў, прыцягваць да гэтай справы і мяне. У выніку глыбокага, працяглага роздуму прыйшоў да высновы, што тата адмовіўся стаць старастам толькі дзеля захавання нашага жыцця. Дзякуючы яго мудрасці, абачлівасці, з намі не расправіліся ні партызаны, ні паліцэйскія. Больш за тое, мы засталіся незаплямленымі перад аднаўленай улетку 1944 года савецкай уладай, не мелі ніякіх абмежаванняў пры паступленні на вучобу і працу. У канцы лета 1949 года мне нават удалося паступіць на вучобу ў Мінскую афіцэрскую школу НКУС СССР, паспяхова вытрымаўшы грунтоўную спецправерку. А былі ж такія кандыдатуры, што якраз і "зразаліся" на ёй. Да пачатку заняткаў у школе мне вельмі захацелася наведаць Магільнае, пахваліцца маме сваёй удачай. Мяне ніколі, як на гэты раз, так не цягнулі да сябе мясцовыя могілкі. І я ледзь не подбегам пайшоў наведаць магілу таты. Як толькі прыкленчыў, адразу ж проста роем палезлі ў галаву думкі з часоў акупацыі, асабліва пра мае настойлівыя ўпрошванні таты стаць старастам і яго рашучае "Не!". Мне падалося, што і цяпер гэтае лёсавызначальнае, выратавальнае "Не!" даносіцца з магілы. Не стрымаўся і даў поўную волю слязам, абняўшы татаву магілу. Не ведаю, колькі часу ляжаў бы на ёй – дзень жа выдаўся цёплы, – калі б да майго слыху не данёсся голас:

– Лёня, годзе табе ўбівацца горам! Ты толькі падумай, колькі з вайны не вярнулася дамоў мужчын!

Суцяшала ж мяне недалёкая ў даваенны час ад нас суседка Жэня Петрашэўская (дзявочае прозвішча Дзесюкевіч), якая прыйшла парадкаваць магілы сваіх бацькоў. Яна зжалілася нада мной мо яшчэ таму, што прыгадала, з якой радасцю, ахвотай (паводле слоў маёй мамы) некалі забаўлялася, насіла мяне, малога, на руках.

## У камуністаў паспакайнела на душы

Прымежнае да Польшчы становішча Магільнага абавязвала пагранічную службу разам з мясцовай уладай як след клапаціцца пра палітычную надзейнасць яго насельніцтва. Меркавалася, што на належным узроўні будзе яна толькі тады, калі ўдасца стварыць працаздольныя, аўтарытэтныя ў асяроддзі людзей партыйную і камсамольскую арганізацыі. І яны існавалі, маючы ў сваім складзе значную колькасць членаў. Сярод іх акрамя прадстаўнікоў улады і інтэлігенцыі сустракаліся і перадавыя калгаснікі. З дзвюх першых прафесійных партыйна-камсамольскіх катэгорый многія, як надышоў час, падаліся, ратуючы саміх сябе, на ўсход, астатнія засталіся дома. Што датычылася шараговых камуністаў, не кажучы ўжо пра камсамольцаў, яны і не падумалі зрушыцца з месца. Пасля ўсталявання акупацыйнага рэжыму камуністы і камсамольцы з ліку службоўцаў стараліся асабліва не паказвацца на вуліцы, мелі вельмі засмучаны выгляд, бо думалі, што вось-вось давядзецца мець справу з уладай. Сапраўдны пярэпалах у камуністаў выклікаў выдадзены на пачатку восені 1941 года загад з'явіцца па невядомай для іх справе ў Вузду. Паслухаліся ўсе і на калгасных падводах прыехалі да месца прызначэння. Гаворка была вельмі кароткай і канкрэтнай:

– Не думайце праводзіць у любой форме агітацыйна-прапагандысцкую работу з людзьмі, клікаць іх да супрацоўлення тым мерапрыемствам, якія праводзіць валасная ўправа. Займайцеся, як і ўсе жыхары вашага мястэчка, карыснай гаспадарчай працай у сябе дома і ў калгасе, тады ніхто не закране ні вас, ні вашу сям'ю.

Такім падыходам вуздзенскага начальства да магільнянскіх камуністаў засталіся задаволенымі і яны, і члены іх сем'яў, а таксама само мясцовае насельніцтва. Сярод белага дня ці ўвечары бачыць камуніста на вуліцы ўжо нікога нікольк не здзіўляла. Да гонару магілян, яны ў гады акупацыі не перажылі ніводнага канфлікту на партыйнай глебе. Не было выпадку помсты ў дачыненні да тых, каго (а падставы для гэтага меліся) падазравалі ў даносах савецкім рэпрэсіўным органам на ні ў чым не вінаватых людзей, бо разумелі, што не час зводзіць рахункі адзін з адным, калі ў тваім доме пасяліўся такі страшэнны вораг. З зараджэннем партызанскага руху ўсе выкліканыя ў Вузду магільнянскія камуністы далучыліся да яго, не стрымаўшы дадзенага акупацыйнай уладзе слова. Яна ж сваіх абяцанняў не парушыла. Вось і думай, хто тут мае рацыю. Будзем лічыць, што камуністы Магільнага, бо яны ж пайшлі ў партызаны, каб удзельнічаць у вызваленні роднага краю ад ворага.

*(Працяг у наступных нумарах.)*

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

# Лёс былога міністра спорту Алега Качана

*Пасля гучнай адстаўкі ён некаторы час займаўся камерцыяй.*



У рэдакцыю патэлефанаваў чытач, які глядзеў сёлетняе правальнае выступленне беларускіх хакеістаў і пры гэтым успамінаў сусветнае першынство-2011. Тады міністрам спорту і турызму быў **Алег Качан**, які шэсць год таму на адсутнасць выніку зборнай на чэмпіянаце адрэагаваў даволі нервова.

*"Яны ж – прафесіяналы і павінны ўмець гуляць у хакей,* – эмацыйна заявіў чыноўнік. – *Чаму іх вучыць? Шайбу забіваць? Змагайцеся! Мезін* (экс-варатар зборнай Беларусі. – **Аўт.**) *павінен бяззубым хадзіць: шайбу лавіць зубамі – не прапускаць. Абаронцы павінны з пераламанымі рукамі і нагамі на лёд выходзіць, не даваць забіць шайбу ў свае вароты. Што за псіхалагічная абстаноўка ў камандзе? Вы ж бачылі. Як гуляла зборная – з мяне ўсе смяяліся. З асобнымі ігракамі і трэнерамі трэба заключаць кантракты. Калі ўскладзеныя абавязкі не выкананы – вярні гэтыя грошы ў бюджэт, аддай назад. Не ўсё, можа, працэнтаў дзевяноста, машыну прадай, кватэру... Яшчэ што-небудзь прадай. І ўсё вернем. Трэба заключаць кантракты – тады спартсмены будуць біцца на пляцоўцы".*

У 2012 годзе Алег Качан быў адпраўлены ў адстаўку за слабыя вынікі нашых спартсменаў на Алімпіядзе ў Лондане, хаця ў публічнай прасторы нічога не было чуваць з нагоды таго, ці збіраецца экс-міністр пасля Гульняў вяртаць у бюджэт грошы, *"калі ўскладзеныя абавязкі не выкананы".*

Праўда, некаторыя СМІ тады паведамлялі, што Качану пагражае крымінальная справа за пабудаваную за кошт бюджэтных сродкаў прыбіральню, хаця тая гісторыя не мела працягу. А пасля Качан і наогул на некалькі гадоў знік з публічнай прасторы.

*"Я тую сітуацыю наогул не хачу каментаваць, бо даўно пра яе забыўся,* – распавёў экс-міністр спорту "Народнай Волі". – *Час усё расставіць на свае месцы. Хаця, безумоўна, не вельмі радаваўся, калі давялося пакідаць пост міністра. Сышоў у камерцыю, змяніў некалькі месцаў працы. І скажу вам шчыра, што камерцыйная дзейнасць – гэта не вельмі проста, увесь час б'е па тваёй кішэні. Зрабіў няправільны крок – аказаўся ў мінусе. Але таксама цікава было паспрабаваць..."*

Як стала вядома, цяпер Алег Качан узначальвае "Тэнісную школу спартыўнага майстэрства", якая базіруецца ў Рэспубліканскім цэнтры алімпійскай падрыхтоўкі. Гэтая кампанія была зарэгістравана каля паўгода таму, у хуткім часе пасля таго, як на пасаду старшыні Беларускай тэніснай федэрацыі прыйшоў Сяргей Цяцерын.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ГІСТОРЫЯ БНР: 100 ГОД ТАМУ...

# Нялёгкае змаганне за беларускую мову

Нават сёння – у незалежнай і суверэннай Рэспубліцы Беларусь – карэнная мова беларускага народа застаецца для кіроўнага рэжыму нялюбай падчаркай. Абсалютная большасць дзяржаўных чыноўнікаў не ў дастатковай меры валодае ёй, а самае галоўнае – не разумее элементарнай неабходнасці гэтага. Хаця вялікая частка чыноўніцкага апарату паходзіць з вёскі, дзе нават у сталінскія і хрушчоўска-брэжнеўскія часы беларуская мова заставалася асноўнай мовай школьнай адукацыі. Па-ранейшаму, аднак, дзяржава, якая носіць назву беларускай, адмаўляецца рабіць колькі-небудзь сур'ёзныя крокі ў забеспячэнні канстытуцыйнага права сваіх грамадзян атрымліваць на беларускай мове вышэйшую адукацыю. Да прыкладу, сотні тысяч беларусаў, якія спраўна выплачваюць падаткі ў дзяржаўную казну, павінны шукаць нейкіх добрых дзядзькоў-фундатараў на забеспячэнне дзейнасці Беларускага нацыянальнага ўніверсітэта.

Бацькі-стваральнікі Беларускай Народнай Рэспублікі знаходзіліся ў яшчэ куды больш складаным становішчы. У царскай Расіі беларусы не мелі магчымасці атрымліваць ніякую адукацыю па-беларуску. Да 1905 года сама мова знаходзілася ў стане фактычнай забароны, і толькі напалоханы рэвалюцыяй імператар Мікалай II урэшце зрабіў некаторыя саступкі: у прыватнасці, дазволіў выданне кніг, газет і часопісаў на розных мовах імперыі, у тым ліку на беларускай.

Што да школьнай адукацыі, то тут беларусам давялося чакаць... прыходу нямецкіх акупацыйных войскаў падчас Першай сусветнай вайны. Калі значная частка сучаснай тэрыторыі Беларусі апынулася ў зоне тылу германскай 10-й арміі, камандаванне гэтай арміі выдала загад аб дазволе на занятай ёй тэрыторыі ствараць школы на ўсіх мовах, якія ўжывае мясцовае насельніцтва. Гэтым скарысталіся і актыўныя беларусы: на працягу паўтара-двух гадоў пачалі сваю працу сотні школ з беларускай мовай навучання. Натуральна, што абсалютная большасць іх была пачатковага ўзроўню, і нават для такіх школ не хапала настаўнікаў (яны маглі быць у той час толькі самавукамі), практычна адсутнічалі падручнікі... Усё гэта мелі стваральнікі польскіх і яўрэйскіх школ, дзейнасць якіх добра фінансавалася памешчыкамі, прамыслоўцамі, гандлярамі, прадстаўнікамі адпаведных нацыянальнасцяў. Створаная яшчэ царскай імперыяй усёабдымная сетка навучальных устаноў на рускай мове наогул па-ранейшаму фактычна захоўвала сваё прывілеяванае становішча.

Усё гэта не маглі не ўлічваць аўтары Другой Устаўной граматы. У ёй, як мы памятаем, гарантаваліся вельмі шырокія правы нацыянальнай аўтаноміі, якімі магло скарыстацца найперш яўрэйскае і польскамоўнае насельніцтва, а таксама зрусіфікаваная частка беларусаў. Прафесар Дарота Міхалюк у сваёй не раз цытаванай намі манаграфіі адзначае: "Увядзенне гэтай пастановы ў жыццё магло негатыўна адбіцца на распаўсюджванні беларускай мовы, якая мела найбольш слабую асветніцкую базу".

Таму адным з першых крокаў кіраўніцтва незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі павінна было стаць забеспячэнне рэальнага дзяржаўнага статусу мовы тытульнай нацыі нашай краіны. 3 красавіка 1918 г. Народны сакратарыят прымае пастанову пра абвяшчэнне беларускай мовы "дзяржаўнай і абавязковай мовай Рэспублікі". Далей у пастанове гаварылася, што "нацыянальным меншасцям Беларусі даецца права карыстацца сваімі мовамі ў афіцыйных зносінах з дзяржаўнымі ўстановамі" і што "ўсе акты, дакументы, і ліставанне дзяржаўных устаноў павінны выконвацца на дзяржаўнай беларускай мове". Як бачым, тое, што разумелі людзі самага рознага адукацыйнага стану і паходжання ў 1918 годзе, па сёння застаецца незразумелым для сучаснага прэзідэнта Беларусі, вялікай колькасці дзяржчыноўнікаў розных узроўняў – ад членаў нацыянальнага сходу і міністраў да сакратароў шмат якіх сельсаветаў сучаснай Рэспублікі Беларусь.

Бацькі-стваральнікі БНР ведалі, што абвяшчэнне беларускай мовы ў якасці дзяржаўнай і абавязковай у краіне ва ўмовах вайны і акупацыі можа сутыкнуцца з супрацівам менавіта адукаванай часткі насельніцтва. І адзіным сапраўдным аргументам, які дазваляў ім бараніць правы беларускай мовы, на той час былі звесткі адзінага поўнага перапісу насельніцтва Расійскай імперыі, праведзенага за два дзясяткі гадоў перад гэтым, у 1897 годзе. Паводле тых самых звестак, роднай лічылі беларускую мову: 891.903 з 1.591.207 жыхароў Віленскай губерні (56,1%), 788.599 з 1.489.246 жыхароў Віцебскай губерні (53%), 705.045 з 1.141.714 жыхароў Гродзенскай губерні (62%), 1.389.782 з 1.686.760 (82%) жыхароў Магілёўскай губерні. Акрамя таго, роднай беларускую лічылі 50 і болей (да 70) працэнтаў жыхароў Новааляксандраўскага павета Ковенскай губерні, Суражскага павета Чарнігаўскай губерні. Пры гэтым імперскія перапісчыкі пакрывілі душою, напісаўшы, што жыхары Смаленскай губерні – напрыклад, у Духаўшчынскім, Ельнінскім або Красненскім паветах – карыстаюцца ў асноўным рускай мовай, хоць працы аўтарытэтных этнографаў таго часу паказвалі, што там гучала ў асноўным чысцюткая беларуская (на якой, сярод іншага, памешчыкам Духаўшчынскага павета Вікенціем Равінскім была напісана беларуская "Энеіда навыварат"). Дарэчы, абвяшчаючы ў канцы 1918 года Савецкую Беларусь у Смаленску, нават самі бальшавікі падкрэслівалі, што значную частку насельніцтва гэтага горада і адпаведнай губерні складаюць беларусы.

Хай мне прабачаць чытачы "Народнай Волі" за такія звышпадрабязныя лічбы, але ж мы цяпер жывём у краіне, дзе з экранаў тэлевізараў, са старонак іншых СМІ патокамі ліецца хлусня наконт таго, што "беларускую нацыю прыдумалі бальшавікі", "беларускай мовай карысталася і карыстаецца невялікая частка беларусаў" і да т. п.!

Змагаючыся за прызнанне беларусаў паўнавартаснай нацыяй, 5 красавіка 1918 г. Народны сакратарыят накіраваў германскаму кайзеру мемарыял (памятную нататку), у якой патрабаваў пераглядзець умовы несправядлівага Брэсцкага міру ў тым ліку на падставе таго, што на вызначаных этнаграфічнай картай тэрыторыях Беларусі на той момант жыло каля 75% беларусаў, каля 10% яўрэяў і каля 15% прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў. На жаль, звязаныя дамовай з бальшавіцкім урадам Леніна–Троцкага кіраўнікі Германскай імперыі фактычна не зрэагавалі ні на гэты, ні на іншыя звароты ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі...



**Лявон БАРШЧЭЎСКІ, кандыдат філалагічных навук.**

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ



Елена МОЛОЧКО

# Бронза и нищета нашей памяти

Люди смотрят в будущее, но держатся-то за память. Это правильно, это понятно, без памяти мы как кошки – кто покормил, тот и друг. Без памятников прошлому нет ни одной столицы на земле, их ставят испокон веков, а примерно с начала XIX века в европейских городах кроме скульптурных композиций стали появляться мемориальные доски на зданиях.

Минск в этом направлении на передовых позициях. На главном проспекте почти на каждом здании у нас висят знаки памяти в честь выдающихся людей. В центре есть дома, на которых вообще установлено девять и даже одиннадцать бронзовых досок. Ковровая завеска! Понятно, что лучшие люди почти всегда раньше получали лучшее жилье, а так как хорошей жилплощади во все времена было немного, то они жили как бы "могучими кучками" – рядом друг с другом.

В общем, атмосферу в центре города мемориальные доски здорово уплотняют своим историческим и художественным весом. И, надо сказать, традиция установки мемориальных досок по-прежнему живет, продолжается, их, как и раньше, размещают на фасадах. Правда, нынче памятные знаки, что называется, пошли в народ, в его гущу. А гуща, она, естественно, разная: частенько и серая, и с комками.

Недавно установили мемориальную доску замечательному белорусскому музыканту-фольклористу Алесю Ращинскому. Благородное дело: деньги собирали его ученики и последователи. Но где доска памяти нашла свое место? На торце типовой многоэтажки, которая стоит чуть ли не у кольцевой дороги. Ох, неудачное место! Просто сквозняк и тоска. Вокруг обыденность и во всех смыслах окраинная заурядность. И вдруг мемориальная бронза на серой панельной стене... Но окружающая среда съедает ее как инородное тело. Она меркнет там, почти погибает, не остается в сознании. Тогда в чем смысл?

Мне возразят: выдающийся человек прожил в этом доме последние десятилетия своей жизни. Да. Но, замечу, это его личное дело. А наше, потомков и почитателей таланта, дело – найти для мемориальной доски в честь достойного человека достойное место. По крайней мере, не на задворках. Актриса Стефания Станюта большую часть своей жизни тоже провела в доме не на проспекте. Так жизнь распорядилась. Но мемориальную доску ей установили там, где это действительно работает на историю государства, на самосознание граждан – в центре города, который не просто географическая точка на карте столицы, но несет немалый сакральный смысл.

Сейчас Министерство культуры решило установить мемориальную доску в честь замечательного композитора, участника ансамбля "Песняры" Игоря Паливоды. Хорошая новость. Паливода был незаурядный человек с божьей искрой таланта, с поистине универсальными способностями: сочинял серьезную академическую музыку и популярные песни, писал стихи и прозу. К сожалению, музыкант очень рано ушел из жизни, в 45 лет. Человек жил под высоким напряженим...

Мемориальная доска Игорю Паливоде, по мнению заказчика, должна быть решена в "лучших традициях классического и национального искусства" – так записано в условиях конкурса. Он, к слову, закончился на днях, и Министерство культуры объявило победителя – скульптора Алеся Шатило. Но опять двадцать пять! Доска будет установлена в далеком микрорайоне, на бетонной стене типовой многоэтажки. Хм, а требования между тем к работе музейные – "в лучших традициях классического искусства". Ну-ну... И как, скажите, классика соединится здесь с заштатной, затоптанной во всех смыслах городской средой спального района? Ведь это настоящий визуальный оксюморон, острое противоречие!

Какая-то в этом проглядывает, я даже сказала бы, убогость. Прежде всего эстетическая: авторская работа (выбранная жюри по конкурсу!) на стене серийной многоэтажки, на которую смотреть и то скучно. Хорошо, если подкрасят к событию. Но кардинально разве что-то изменится? Ну не работает, не живет монументальная бронза на таком строительном ширпотребе, как наши современные жилые дома. И потом, идеологически – это ведь тоже полный пролет. О чем мы хотим напомнить людям, развешивая доски памяти на окраинах? Что в тесной «брежневке» жил и творил талантливый человек, что на большее, чем эти бетонные закуточки, даже он у государства не заслужил? А ведь возникают и такие досадные ассоциации.

Все-таки памятный знак не просто табличка из домовой книги местного ЖКХ: "Здесь был прописан Петя". Это государственное признание заслуг персоны перед Родиной. И место произведению монументального искусства может быть только центровое, пафосное, как можно более публичное. И, настаиваю, красивое. Как и наследие тех замечательных, талантливых соотечественников, память которых мы хотим сберечь и увековечить. А если по-другому, то это выглядит примерно так же, как золотая пуговица на рабочей робе. Дорого, но не к месту. Ни чужих рассмешить, ни своих научить.

Народная Воля http://www.nv-online.info 15 МАЯ 2018 г.

ВЕРШЫ

## Валянціна САДОЎСКАЯ

# «З крыніц святых душою наталіцца»

*Валянціна Садоўская нарадзілася ў Маскве, яе бацькі родам з Тамбоўшчыны. Лёс закінуў яе ў Беларусь у 1944 годзе. Вучылася ў Гомелі ў школе, дзе дзеці прыезджых вайскоўцаў і высокага гарадскога начальства без праблем вызваляліся ад беларускай мовы. Валянціне было шкада настаўніцу-беларусістку, яна садзілася на першую парту і слухала мову. Вельмі палюбіла літаратуру, асабліва вершы. Шмат твораў завучыла на памяць, у тым ліку паэму Янкі Купалы "Бандароўна", якая "дапамагла" паступіць у Мінскі інстытут замежных моў, дзе Валянціна пазнаёмілася са сваім будучым мужам – Пятром Садоўскім, які з часам стаў вядомым мовазнаўцам і дыпламатам, першым амбасадарам Беларусі ў Германіі. Апошнім часам спадарыня Валянціна моцна хварэе, але не страчвае жыццёвай бадзёрасці, пра што сведчаць дасланыя ў рэдакцыю "Народнай Волі" яе вершы для дзетак.*

### Дзень народзінаў

Я прымаю падарункі,
Сёння ў мяне свята.
Кветкі, цацкі і ласункі
Мне нясуць дзяўчаты.

Сябра Ясь прынёс малюнак,
Але скажам шчыра:
Самы лепшы падарунак
Мама мне зрабіла.

Як, – не ведаю пакуль я,
Не чакаў такога, –
Нарадзіла мне матуля
Брацікa малога!

### Дзе жывуць звяры

– Мама, дзе жывуць звяры?
– Ў цырку, – кажа мама, –
У звярынцы, у бары,
І ў людзей таксама:
Хамячок – у Стасіка,
Рыбкі – у Юрасіка,
Котка шэрая – у Дашы,
Птушка ў клетцы – у Наташы,
А маленькі Грышка
Мае цуда-мышку,
Што без ежы і вады,
Ля камп'ютара заўжды!

### Я – беларус

Я – беларус, не бачыў я Парыжа.
Хоць пабываць там – гонар і прэстыж.
Мне клінам свет сышоўся на Нясвіжы,
І для мяне ён – лепшы за Парыж.

Я – беларус, не быў я на Канарах.
Тамтэйшых цудаў не спазнаў дасюль.
Вандрую па планеце толькі ў марах.
Жыву ж у родным Полацку пакуль.

Тут Еўфрасінні дух лунае ў храме,
На плошчу кліча люд Скарына сам.
Што мне рабіць, скажыце, ў Амстэрдаме?
Мне Полацак – Парыж і Амстэрдам.

Я – беларус, мой лёс – тут нарадзіцца,
Дзе хмеліць водар пушчаў і лугоў,
З крыніц святых душою наталіцца,
Да скону шанаваць сваіх багоў.

Хто там ідзе? – Купала нас пытае.
Я – беларус і гонар маю свой.
Мне слуцкая ткачыха уплятае
Блакітны васілёк у модны строй.

Я – беларус, я сціплы і цярплівы,
Чужыя землі не патрэбны нам.
А мову родную, як гаспадар руплівы,
На згубу я нікому не аддам!



ДЫЯЛОГІ





## Міхась СКОБЛА – Анатоль ЗАБАЛОЦКІ

# «На «Беларусьфільме» мяне трымалі ў чорным целе»

*Ён нарадзіўся ў 1935 годзе ў Краснаярскім краі ў сям'і перасяленцаў з Беларусі. Свой шлях у кіно распачаў на "Беларусьфільме", зняўшы 15 мастацкіх фільмаў, сярод якіх экранізацыі беларускай класікі "Альпійская балада" і "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", а таксама стужкі Васіля Шукшына "Каліна красная" і "Печкі-лавачкі". Яго сумесны з Віктарам Туравым фільм "Праз могілкі" ўвайшоў у сотню найлепшых стужак пра вайну па версіі UNESCO.*

*Сённяшні госць рубрыкі "Дыялогі" – знакаміты кінааператар **Анатоль Забалоцкі**.*

**– Анатоль Дзмітрыевіч, вы больш за дзесяць гадоў працавалі на "Беларусьфільме". Што ў ваш час уяўляла з сябе кінастудыя?**

– На "Беларусьфільм" я прыехаў у 1960 годзе. Прыходжу ў аддзел кадраў, а там мне заяўляюць: "У нас апаратараў хапае, вы нам не патрэбны". Я кажу: "Дык пішыце мне адмову". А адмову мог падпісаць толькі дырэктар па прозвішчы Кукушкін, але з аблічча – тыповы беларус. Ён неяк дужа сур'ёзна паглядзеў на мяне: "Ніякай адмовы, нам белабрысыя патрэбны". Я зняў пакойчык на вуліцы Карла Маркса і вырашыў палову заробку траціць на цукеркі і сасіскі. Пасля вайны ж галадуха была, цукру зусім не было. У той час на кінастудыі па-беларуску амаль ніхто не гаварыў – нават Максім Лужанін і Аркадзь Куляшоў. І вось я думаю: іх жа ніхто не прымушаў гаварыць па-руску...

Аднойчы на агучванні фільма я сустрэў Уладзіміра Караткевіча. Мы неяк адразу сышліся, у першы ж дзень знаёмства ён запрасіў мяне да сябе дадому, пазнаёміў з маці. Валодзя быў сапраўдным, а не паказным патрыётам Беларусі. Гэта ад яго я пачуў прыказку, якую ён ставіў эпіграфам да ўсёй гісторыі беларускага народа: "Бяда толькі ра́ка красіць". Потым ад мяне тую прыказку пачуў літоўскі рэжысёр Вітаўтас Жалакявічус. Задумаўся. Я кажу: "Глядзі, колькі падтэкстаў!" А ён: "Ага, столькі падтэкстаў – аж няма куды падзецца!"

### «Хотел дойти до Даугавпилса, а вместо этого напился»

**– Для згаданага вамі Караткевіча незалежнасць Беларусі была б найвялікшай каштоўнасцю. А як вы як грамадзянін Расіі ставіцеся да таго, што Беларусь – гэта другая краіна?**

– Станоўча стаўлюся. Хоць часам Караткевіча, здаецца, заносіла. Аднойчы мы былі з ім у Рагачове ў яго дзядзькі. І Валодзя даў волю сваім нацыянальным пачуццям. А дзядзька быў гісторыкам, і ён адразу яго спыніў: "Кінь сваю фанабэрыю!" Ён мог у любы момант спыніць Караткевіча, казаў пляменніку, каб той не задзіраў нос.

**– Па-мойму, у Караткевіча гэта якасць поўнасцю адсутнічала.**

– Гэта праўда. Помню яшчэ дзядзькава папярэджанне: "Валодзя, ты ў Мінску больш маўчы і назапашвай сілы". А калі мы вярталіся з Рагачова ў сталіцу, на аўтобуснай станцыі стаялі, падышла бабулька з двума ўнукамі. Кажа: пайду куплю "лімінаду", а вы маіх хлопцаў папільнуйце. Валодзя адразу да ўнукаў: "Па колькі вам гадоў?" А тыя маўчаць, як нямыя. Караткевіч не адступаецца: "Ну вось ты, старэйшы, колькі табе? Ты хіба гаварыць не ўмееш?" І той нарэшце выціснуў з сябе: "Нам не кажуць, мы і не ведаем". Валодзя так узрадаваўся: "Во, умеюць, калі трэба, маўчаць. Ніколі маскалі нас не каланізуюць!"

Мы з Валодзем некалькі разоў у Вільнюс ляталі, рублёў шэсць, па-мойму, квіток каштаваў, а ляцець трэба было ўсяго дваццаць хвілін. Там нас, помню, сустрэлі літоўскія і латышскія Валодзевы сябры. Падпілі добра і пачалі прад'яўляць адзін аднаму тэрытарыяльныя прэтэнзіі: "Ты аддай нам Браслаў і Нарач, а ты – Даўгаўпілс, гэта нашы землі". Валодзя дык быў шчодры: "Бярыце! Мне не шкада". Урэшце ўсе паснулі, хто на канапе, хто на падлозе. Валодзя раніцай устаў першым і флегматычна заўважыў пра аднаго з дамагальнікаў: "Хотел дойти до Даугавпилса, а вместо этого напился". Валодзя часам быў проста неверагодным імправізатарам!

### «Караткевіч ніколі не нудзіўся, з яго жарты як з меха сыпаліся»

**– У сваім эсэ "Дрэва вечнасці", дзе вы адзін з галоўных герояў, Караткевіч сам сябе ахарактарызаваў так: "Добры хлопец, здабывальшчык прыпасаў, адказны за вогнішча, пры зручным выпадку сабрат па бутэльцы і прочая, і прочая, і прочая". Ён сапраўды быў душой любой кампаніі?**

– Валодзя ніколі не нудзіўся, з яго жарты як з меха сыпаліся. Аднойчы ён мне кажа: "Звярні ўвагу, у мяне вочы вялікія і лупатыя, і таму я бачу на небе зорак у два разы больш за цябе!" А неяк паглядзеў на мяне загадкава і прызнаў: "Ты – рымлянін!" Я ўзрадаваўся такому параўнанню, а ён дадаў: "У эпоху заняпаду..." А колькі ён прыпевак розных сачыніў, якія потым каму толькі не прыпісвалі! Часцей – Рыгору Барадуліну. Але я сам чуў іх ад Караткевіча. Гэта ж ён першым кавярню ў Доме мастацтва "Мутным вокам" назваў, і назва прыжылася. Праўда, нас за гэта туды доўга не пускалі.

**– Пра караткевічаўскія хохмы шмат пісаў і Рыгор Барадулін, і Адам Мальдзіс. Адам Восіпавіч, дарэчы, падкрэсліваў нежаданне Караткевіча жартаваць на палітычныя тэмы.**

– А мне прыгадваецца, як у парку Чалюскінцаў паставілі вялікія літары, зробленыя з фанеры: "Коммунизм неизбежен!". І аднойчы ў адну з літар залезла кошка, а вылезці не можа. Сядзіць там і крычыць на ўвесь парк. Валодзя сказаў: "Добра было б у кожную літару па кошцы запусціць – было б адпаведнае гукавое афармленне".

**– Я ўжо згадваў эсэ "Дрэва вечнасці" – пра тое, як вы з Уладзімірам Сымонавічам ездзілі па Беларусі і здымалі фільм пра старыя дрэвы. А вам тое падарожжа чым запомнілася?**

– Ездзілі мы тады на старым "казле", у якога амартызатараў, па-мойму, зусім не было. І вось едзем у Любчу здымаць таполю Напалеона. Валодзя сядзеў пасярэдзіне, я з камерай з краю. Калі заязджалі на пантонны мост праз Нёман, нас моцна падкінула. Валодзя ўдарыўся галавой аб жалезную дугу і неяк ажно імгненна апух. Мы яго суцяшаем, а ён праз боль жартуе: "Зато мяне болей стала!" Увогуле, калі паедзеш з Караткевічам, дык нічога не здымеш. Ён быў такі расказчык – заслухаешся! І ўсё казаў мне: "Таляціна (так, на італьянскі манер, ён мяне называў), ну хоць трошкі падвучы беларускую мову! Яна ж такая глыбінна славянская". Я абяцаў, што падвучу….

**– Быў выпадак, калі з кнігі Караткевіча "Мая Іліяда" цэнзура зняла ажно дванаццаць прысвячэнняў, у тым ліку і вам – з верша "Балада пра дзіка і чалавека". Чаму вы для Галоўліта былі ў ліку падазроных?**

– Валодзя на свае вочы бачыў, як мяне на "Беларусьфільме" трымалі ў чорным целе. Я выжыў толькі таму, што добра валодаў прыкладной прафесіяй – добра здымаў. А праца апаратара сама па сабе рабская, без адпачынкаў, і зімой, і летам. Валодзя бачыў, як я здымаў свой першы фільм з рэжысёрам Барысам Сцяпанавым – "Апошні хлеб". Фільм атрымаўся, але яго паказ забаранілі. Так што не дзіўна, што тады маё прозвішча з кніжкі выкінулі.

### «Удалых экранізацый твораў Васіля Быкава – няма»

**– Са Сцяпанавым вы знялі і "Альпійскую баладу" па аповесці Васіля Быкава. А чым вам запомнілася гэта праца?**

– "Альпійскую баладу" перакласці на мову кіно было вельмі складана. Фільм атрымаўся толькі таму, што ў той жа час Андрэй Таркоўскі не ўзяў Станіслава Любшына на ролю Андрэя Рублёва. Я тады нават у дзённіку запісаў, што ён вельмі моцна прайграў, узяўшы Анатоля Саланіцына. А Любшын дастаўся нам. Гэта па-добраму сцэментавала карціну. Калі б яшчэ ўзялі сапраўдную італьянскую актрысу Іларыю Акіні, яна вельмі цікава глядзелася б. А так… У "Альпійскую баладу" шмат чаго не ўвайшло, скажам, быў выкінуты эпізод, дзе героі размаўляюць пра савецкую ўладу і яна, італьянка, верыць ёй, а ён – не! Сцяпанаў, зразумела, гэта адразу выкінуў. А мне не было чаго губляць, і я змагаўся да апошняга. Нават напісаў ліст Быкаву з прапановай замяніць рэжысёра. Быкаў адказаў, што хацеў рэжысёрам Вітаўтаса Жалакявічуса, але на кінастудыі вырашылі іначай. А цяпер яму далі Ларысу Шапіцька – здымаць "Сотнікава". Масква дала, Дзяржкіно. І што ён нічога зрабіць не можа.

**– Быкаў не любіў фільмаў па сваіх творах – няўжо не было ніводнай удалай экранізацыі?**

– Ды няма ў яго ўдалых экранізацый! І "Альпійская балада" толькі напалову ўдалася, і "Знак бяды"... Мне Васіль запомніўся сваім беларускім прытоеным характарам. "Хоць гаршком назаві, толькі ў печку не стаў" – гэта, як мне здаецца, пра яго. Але на Быкава моцна ўплываў Алесь Адамовіч – сапраўдны дысідэнт. Аляксандру Лукашэнку робіць гонар тое, што ён Быкава па-дзяржаўнаму пахаваў. Нават труна такая ж была, як у Віктара Турава.

**– Мабыць, я вас вельмі здзіўлю, калі скажу, што ні Лукашэнка, ні яго чыноўнікі не мелі ніякага дачынення да пахавання Быкава. Дзяржаўная пахавальная камісія на чале з тагачасным міністрам культуры самаўхілілася ад выканання сваіх абавязкаў. Быкава хаваў Саюз пісьменнікаў і – тысячы беларусаў.**

– Я гэтага не ведаў. Проста бачыў тэлехроніку, дзе гаварылася зусім пра іншае.

### «Мой дзед Канстанцін Лявонавіч Забалоцкі быў з-пад Барысава»

**– Давайце прыгадаем яшчэ адзін ваш фільм – шукшынскую "Каліну красную". Там ёсць эпізод, дзе герой Шукшына ідзе паўз стэнды з гербамі ўсіх савецкіх рэспублік і спыняецца каля герба БССР. Гэта выпадкова?**

– Невыпадкова. Я ж па дзеду – беларус. Мой дзед Канстанцін Лявонавіч Забалоцкі быў з-пад Барысава, у сталыпінскую рэформу разам з бабуляй Антанінай перасяліўся ў Сібір, моцна асеў на зямлі. У яго было дзевяць коней, цэлы статак кароў. А потым дзеда раскулачылі, і ўсю яго гаспадарку забралі ў калгас. Пражыў ён, дарэчы, 90 гадоў (памёр у 1959-м), і ў яго было ажно 12 дзяцей, з якіх выжылі шасцёра – чатыры сыны і дзве дачкі. Калі я збіраўся паступаць у маскоўскі Інстытут кінематаграфіі, дзед мяне адгаворваў: "Ой, не хадзі, дзіцятка! Бачыў я тое кіно яшчэ ў 1908 годзе. На палатне дзеўкі скачуць, вось і ўсё кіно – грошы кінь і ідзі…" Яшчэ перад вайной дзед аслеп – раптоўна, ад перанапругі. Вёз сена, і воз стаў падаць пад адхон, а ён упёрся плячом. Нейкія сасуды лопнулі, і ён да канца сваіх дзён нічога не бачыў. У дзедавай мове было шмат беларусізмаў, ён вельмі хацеў з'ездзіць на радзіму, але не атрымалася. А бабуля мне дапамагла першы фотаапарат купіць – "ФЭД".

**– Вось хто вас на аператарскі шлях падштурхнуў. Дык гэта вы Шукшына каля беларускага герба спынілі?**

– Ну так. Мы з ім, дарэчы, на "Беларусьфільме" блізка сышліся, калі ён прыязджаў, як гаварыў, "кінастудыю памацаць". А ў "Каліне краснай" падтэкстаў розных нямала… Фільм будзе жыць яшчэ вельмі доўга, бо Шукшын там ролю не выканаў – ён тыя два месяцы дваццаць два дні проста пражыў, як уласнае жыццё. Нядаўна ў сваім архіве знайшоў я ліст ад Караткевіча, датаваны 1974 годам: "Глядзеў нядаўна "Каліну красную". Але ж і малайцы, але ж і сукіны вы сыны з Васілём Макаравічам! Гэта ж тое, што трэба: проста – і ой як няпроста… Вам, нябось, дасталося. Відаць, кавалкамі выдзіралі, гэта сям-там заўважна. Але і таго, што засталося, хопіць з капюшонам. Васіль там сказаў фразу, якая мяне зачапіла: "Мужыкоў у Расіі многа". Гэта гучыць не толькі, як хамская пагарда падонка, але і як вялікая надзея. Сапраўды, пакуль мужыкоў у Расіі (і ў Беларусі, і паўсюль) многа – не ўсё яшчэ страчана". Караткевіч, дарэчы, хацеў зняцца ў нашым з Шукшыным фільме "Сцяпан Разін" – выканаць хоць "бясслоўную ролю з атачэння атамана з надрыўным слёзным спевам над каўшом віна". На жаль, не атрымалася.

**– А праўда, што Шукшыну спадабаўся сцэнарый Караткевіча па рамане "Хрыстос прызямліўся ў Гародні"?**

– Дык я сам даваў яму той сцэнарый чытаць! Макарычу вельмі спадабалася, і ён пазней шчыра здзіўляўся, як на такім выдатным матэрыяле кіно запаролі. І дужа хацеў з Караткевічам пазнаёміцца. Асабліва Шукшыну прыйшлася да душы Валодзева эпіграма на мяне. Неяк мы з маім сябрам Юрыем Марухіным паспрачаліся, хто даўжэй зможа не спаць. Некалькі сутак пратрымаліся, а потым заснулі мёртвым сном. Караткевіч прыйшоў і не змог нас дабудзіцца, думаў – мы з перапою. Тады ён і напісаў: "Скажем прямо: пьет по-скотски Анатолий Заболотский".

**– У Мінску цяпер працягвае выходзіць Збор твораў Караткевіча ў 25 тамах. Прыгаданыя вамі эпіграмы будуць там якраз да месца.**

– Дык я яшчэ адну помню. Неяк мы сядзелі з Валодзем і слухалі рускае радыё з Канады. І там перадалі, што абвяшчаецца конкурс на сцэнарый аднахвіліннага (!) дакументальнага фільма. Валодзя задумаўся і кажа: "Прыдумаў!

*Ледоход, ледоход –*
*Побежал к реке народ.*
*І плывут по речке льдинки –*
*Четвертинки, половинки,*
*А на самой большей льдинке*
*Литр стоял посерединке".*

Я ахнуў: "Валодзя! Ты геній!" Дарэчы, у мяне захаваліся 86 кадраў са здымкаў фільма "Жыццё і ўзнясенне Юрася Братчыка" (па "Хрысту…"), там і Валодзя ёсць. На той фільм пайшла рэкордная колькасць плёнкі – ажно 68 кіламетраў. Чыноўнікі ўсё хацелі, каб стужка была антырэлігійнай, але яна ўсё роўна атрымалася вельмі рэлігійнай.

### «Цяпер героямі ў кіно сталі ахоўнікі ў ГУЛАГу»

**– Ваш з Віктарам Туравым фільм "Праз могілкі" ўвайшоў у сотню найлепшых фільмаў пра вайну па версіі UNESCO. Дарэчы, нядаўна, 9 Мая, яго паказвалі па БТ – і сёння глядзіцца.**

– Тураў – вельмі таленавіты рэжысёр, вучань Аляксандра Даўжэнкі. Але ў яго была адна бяда – жаданне ў галоўнай ролі абавязкова здымаць сваю жонку… З-за гэтага ён не зрабіў ніводнага фільма, вартага свайго таленту. З-за гэтага і я быў вымушаны сысці ад яго, зняўшы "Праз могілкі". Віктар потым пайшоў у чыноўнікі, узначаліў Саюз кінематаграфістаў Беларусі. А чыноўнік і мастак – рэчы несумяшчальныя. Гэта нам выдатна даказаў і працягвае даказваць Мікіта Міхалкоў... У фільме "Праз могілкі" нам патрэбна была спаленая вёска. І тут якраз, калі мы ўжо распачалі здымкі, насамрэч згарэла вёска. Мы адразу паехалі туды і ўбачылі, што ад усёй вёскі засталіся толькі коміны печаў і ямы прыбіральняў. Гэта ж вобраз! Віктар бегаў, выбіраў сюжэты, а мы дабудоўвалі дэкарацыю. Ён бегаў-бегаў і заляцеў у яму з г…м ледзь не па пояс. Ледзь адмылі потым, у машыне доўга смурод адчуваўся. Ён са злосці адмовіўся той вобраз скарыстаць.

**– Беларусы сёння з трывогай глядзяць на многае, што адбываецца ў Расіі. Скажам, дзесьці ў Мардовіі з'явіўся помнік заснавальнікам ГУЛАГа. Не ахвярам – заснавальнікам! Як вы да гэтага ставіцеся?**

– Думаю, што помнікі арганізатарам лагераў ставяць самі былыя арганізатары. Я бачыў сучасныя дакументальныя фільмы – аказваецца, яны на Салаўках былі самымі галоўнымі. Цяпер героямі сталі былыя ахоўнікі. Калі я прыязджаю ў Беларусь, то адчуваю, што ў вас нашмат свяжэй дыхаецца. У вас цяпер больш свабоды, чым у нас у Маскве. І, што яшчэ заўважна, нехта нам сябраваць перашкаджае. Вось я тэлефаную ў Беларусь і ў Грузію. Дык у Грузію танней абыходзіцца, хоць між намі няма ніякіх адносін цяпер. Значыць, гэта спецыяльна робіцца, нехта зацікаўлены, каб нас раз'яднаць.

### «Людзям мастацтва ў Маскве жыць неверагодна цяжка»

**– Першае, што я сёння ўбачыў у Маскве – вялікі плакат-абвестка пра паэтычную вечарыну мільярдэра Міхаіла Гуцэрыева. Хіба гэта не прафанацыя паэзіі?**

– Прафанацыя. "Паэтам" Гуцэрыева зрабіў галоўны рэдактар "Нашего современника" Станіслаў Куняеў, надрукаваўшы ў часопісе яго вершы. Алігарх у падзяку аплаціў дадатковы наклад – 25.000 асобнікаў і, наколькі я ведаю, дапамагае часопісу выжыць. Многія маскоўскія тоўстыя часопісы маюць сёння вялікія фінансавыя праблемы – і "Новый мир", і "Дружба народов", і той жа "Наш современник".

**– Людзям, якія займаюцца сур'ёзным мастацтвам, сёння ў Маскве жыць цяжка?**

– Неверагодна цяжка! Калі ў цябе няма багатага сваяка, які будзе цябе карміць, выжыць практычна немагчыма. У кіно як? Зняў фільм і мусіш адстойваць яго, нярэдка і на паліцу пакласці да лепшых часоў. Раней была цэнзура ідэалагічная, а сёння – цэнзура грошай. Цяпер жа прадзюсары камандуюць рэжысёрамі. Яны і здымачны матэрыял забіраюць і робяць што хочуць. Усё робіцца, каб трымаць гледача ў цуглях, а пра мастацтва ніхто не думае. Таму я з кіно сышоў у мастацкую фатаграфію. Праўда, і на ёй заробіш, як Заблоцкі на мыле. Мне Караткевіч расказваў гісторыю, як адзін паляшук накупіў добрага мыла, каб прадаць больш выгадна, але на транспарціроўку грошай пашкадаваў. Павёз тое мыла па Прыпяці ў старым дзіравым чоўне, вада заліла тавар, і ўсё мыла растала. Дарэчы, вельмі мудрая прыпавесць, як і ўвесь фальклор беларускі.

*Мінск–Масква.*

КРЫЖАВАНКА

# «Больш за ўсё гора выпала на Беларусь»

**Па гарызанталі:** 1.“Больш за ўсё … выпала на Беларусь, // На маленькую нашу радзіму” – з верша С.Бузун “Трагедыя Чарнобыля”. 6.“Бліскавіцай урану // Можна … спапяліць. // І пякельнаю ранай // Мне Чарнобыль баліць” – з верша Г.Бураўкіна “Той чарнобыльскай ноччу”. 9.“Яны стаяць адзіным фронтам – // ..., стронцый і клады” – з верша В.Гардзея “Гарызонт”. 10.Збудаванне-помнік; …, прысвечаны адселеным беларускім вёскам, існуе ў г.Карме, што на Гомельшчыне. 12.Рэчаіснасць. 13.“Радыяцыяй атручана …, // Рэкі і калодзежы каля жылля” – з верша М.Маляўкі “Тое, што пасеялі, збіраем”. 17.Вада не …; пастаяла дый пайшла (прык.). 18.“Я ўзіраюся ў зорнае … // Над мёртвымі вёскамі // Гомельшчыны і Магілёўшчыны” – з верша А.Канапелькі “Пілоту”. 21.Лютэранская царква. 22.Паселішча на Каўказе. 24.Той, хто выконвае дома даручаную яму працу. 29.Змагар за ўсталяванне новага, перадавога. 30.“Са стронцыем сёння паснедаў, // З плутоніем, мусіць, абедаў // І з цэзіем вымыў свой …” – з верша Я.Мальца “Як многа чарнобыльскі ўдар…”. 31.“За ракою – пыхкае АЭС. // Без людзей пагорбіліся …” – з верша А.Грачанікава “Радыяцыя – нябачны акупант”.



**Па вертыкалі:** 1.“Чорны стронцый апякае … .// Лёгка каля продкаў тут заснуць” – з верша Н.Аксёнчык “Перасяленцы”. 2.Вольнаму – воля, уратаванаму – … (прык.). 3.Прыняцце на работу. 4.“Быў Чарнобыль. Было балюча. // ... смерці было і агню” – з верша З.Гасціловіч “Жонкам пажарнікаў, загінуўшых на Чарнобыльскай АЭС”. 5.Дарога, абсаджаная дрэвамі, кустамі. 7.Чыё поле, таго і … (прык.). 8.“Ліхань і плутонь жывым не трэба” – з верша М.Скоблы “Чарнобыльская …”. 11.Сярэдневяковы воін у латах. 14.Вежа з сігнальнымі агнямі. 15.Халодная зброя ў народаў Блізкага і Сярэдняга Усходу. 16.Тое, што сабрана. 19.Мінерал чорнага колеру; кавалкі яго збіралі і кідалі ўніз ваеннаслужачыя на даху машыннай залы Чарнобыльскай АЭС, у выніку чаго атрымалі смяротныя дозы радыяцыі. 20.Сей авёс, як … з’явяцца (прык.). 23. … без дабра не бывае (прык.). 25.“… зрабіў Беларусь удавою. // А ва ўдавы // Не зачыняюцца хлявы” – з верша Р.Барадуліна “Жалоба”. 26.“… Божая ахвяр Чарнобыля” – абраз выдатнага беларускага мастака А.Марачкіна. 27.Заклік да чаго-небудзь.

**Лявон ЦЕЛЕШ.**

*г.Дзяржынск.*

**Адказы на крыжаванку**

**Па гарызанталі:** 1.Гора. 6.Свет. 9.Чарнобыль. 10.Мемарыял. 12.Ява. 13.Зямля. 17.Бяда. 18.Неба. 21.Кірха. 22.Аул. 24.Надомнік. 29.Барацьбіт. 30.Твар. 31.Хаты.

**Па вертыкалі:** 1.Грудзі. 2.Рай. 3.Найм. 4.Мора. 5.Алея. 7.Воля. 8.Талака. 11.Латнік. 14.Маяк. 15.Ятаган. 16.Збор. 19.Графіт. 20.Камары. 23.Ліха. 25.Атам. 26.Маці. 27.Кліч. 28.Эра.

ВЕДАЙ НАШЫХ!

# Ці атрымае БАТЭ грошы ад балельшчыка?



*Аматар футбола, які павінен барысаўскаму клубу 5 тысяч еўра, распавёў “Народнай Волі”, як збіраецца выплачваць гэтую суму.*

Нагадаем, што яшчэ 28 верасня мінулага года падчас матча Лігі Еўропы паміж БАТЭ і лонданскім “Арсеналам” на поле “Барысаў-Арэны” выбег хлопец з бел-чырвона-белым сцягам. Ахова стадыёна затрымала яго і вывела з поля.

Пазней суд Барысаўскага раёна асудзіў жыхара Вілейкі **Аляксандра Вянгерскага** на 10 сутак адміністрацыйнага арышту за дробнае хуліганства і “непадпарадкаванне законнаму патрабаванню службовай асобы”, а БАТЭ атрымаў ад УЕФА за ўчынак балельшчыка штраф у памеры 5 тысяч еўра.

У выніку БАТЭ вырашыў падаць на Вянгерскага ў суд “рэгрэсіўны іск”, каб спагнаць гэтыя грошы, якія клуб збіраецца аддаць “на дабрачыннасць”.

На пачатку гэтага года суд Вілейскага раёна задаволіў іск футбольнага клуба да балельшчыка ў поўным аб’ёме – Аляксандр Вянгерскі павінен заплаціць БАТЭ 5 тысяч еўра.

Мы вырашылі пацікавіцца, ці атрымаў ужо клуб грошы ад балельшчыка, але ў прэс-службе БАТЭ развялі рукамі: маўляў, самі не ведаем. І параілі звяртацца за адказам у суд.

У судзе Вілейскага раёна па тэлефоне даваць інфармацыю адмовіліся, але стала вядома, што сам Аляксандр Вянгерскі яшчэ ў мінулым годзе з’ехаў за мяжу і там працуе, каб зарабіць грошы на аплату штрафу, які… не збіраецца аддаваць БАТЭ.

*“Зараблю 5 тысяч еўра і перадам грошы ад свайго імя ў які-небудзь дзіцячы дом,* – распавёў ён. – *Барысаўскі клуб мог хаця б слова сказаць у абарону свайго балельшчыка, але ў яго, відаць, іншая пазіцыя. У такім выпадку ў мяне – свая. Прынцыпова не буду нічога выплачваць БАТЭ, няхай судовыя выканаўцы вылічваюць грошы з маіх заробкаў, яшчэ нейкім чынам спаганяюць”.*

Са слоў балельшчыка, ён працуе ў адной еўрапейскай краіне вадзіцелем, у месяц “чыстымі” атрымліваецца дзесьці 1200–1300 еўра.

*“Я выбег на футбольнае поле з бел-чырвона-белым сцягам не дзеля таго, каб прапіярыць сябе і з’ехаць за мяжу,* – дадае ён. – *І ніякага палітычнага прытулку прасіць не збіраюся, як мяркуюць некаторыя. Зараблю грошы – вярнуся дадому”.*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ФУТБОЛ

# БАТЭ ідзе без асечак

*Адбыліся матчы 7-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*



Вось іх вынікі: “Мінск” – “Слуцк” – 0:2, “Смалявічы” – “Днепр” (Магілёў) – 2:1, “Гомель” – “Тарпеда-БелАЗ” (Жодзіна) – 0:0, “Дынама” (Брэст) – “Віцебск” – 3:1, “Шахцёр” (Салігорск) – “ Іслач” (Мінскі раён) – 3:0, БАТЭ (Барысаў) – “Тарпеда” (Мінск) – 2:0, “Нёман” (Гродна) – “Гарадзея” – 1:0.

**P.S.** *У табліцы не ўлічаны вынік матча “Прамень” (Мінск) – “Дынама” (Мінск), які адбыўся ўчора вечарам.*

## Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| БАТЭ | 7 | 7 | 0 | 0 | 12–1 | 21 |
| Дынама (Мн) | 6 | 4 | 2 | 0 | 8–2 | 14 |
| Слуцк | 7 | 4 | 2 | 1 | 9–4 | 14 |
| Тарпеда-БелАЗ | 7 | 3 | 3 | 1 | 7–4 | 12 |
| Нёман | 7 | 3 | 3 | 1 | 6–5 | 12 |
| Віцебск | 7 | 3 | 2 | 2 | 8–7 | 11 |
| Шахцёр | 7 | 2 | 3 | 2 | 6–4 | 9 |
| Дынама (Бр) | 7 | 2 | 3 | 2 | 10–11 | 9 |
| Днепр | 7 | 2 | 2 | 3 | 5–7 | 8 |
| Прамень | 6 | 2 | 1 | 3 | 4–7 | 7 |
| Іслач | 7 | 1 | 4 | 2 | 4–7 | 7 |
| Смалявічы | 7 | 1 | 3 | 3 | 6–8 | 6 |
| Тарпеда | 7 | 1 | 2 | 4 | 2–6 | 5 |
| Гомель | 7 | 0 | 4 | 3 | 2–5 | 4 |
| Гарадзея | 7 | 0 | 3 | 4 | 2–7 | 3 |
| Мінск | 7 | 0 | 3 | 4 | 5–11 | 3 |

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ



Алесь СІВЫ

# Вылецелі з трэскам!

Спраўдзіліся самыя сумныя прагнозы. Як ужо вядома, зборная Беларусі па хакеі прайграла ў рашаючай гульні аўстрыйцам (0:4) і ўпершыню за 15 год апусцілася ў ніжэйшую лігу. Тых, хто зараней песімістычна казаў пра такі зыход, называлі ледзь не “апазіцыянерамі”, якія жадаюць толькі горшага краіне і ўсяму беларускаму хакею, але чатыры шайбы аўстрыйцаў у вароты беларусаў абсалютна дакладна ўказалі на тое месца, дзе знаходзіцца наша зборная сёння.

Дзіўна, што нават у такой сітуацыі некаторыя спрабавалі зрабіць добрую міну пры неверагодна дрэннай гульні.

*«Гэты чэмпіянат яшчэ доўга будуць абмяркоўваць,* – напісала прэс-служба Федэрацыі хакея пасля матча з аўстрыйцамі, калі стала вядома, што каманда вылецела з элітнага дывізёна. – *Адразу пасля гульні было відавочна адно: наша каманда зрабіла тое, на што была здольная. І нават крыху больш. Мы выходзілі гуляць супраць лепшых каманд і на сабе адчулі ўзровень іх хакея. Хлопцы аддавалі барацьбе ўсе сілы. І папракаць іх можна толькі ў тым, што яны не стварылі цуд. Наперадзе доўгі шлях наверх. І ён абавязкова будзе паспяховым. Трэба толькі паставіць мэту і пачаць працаваць».*

Не ведаю, хто аўтар гэтага тэксту, але пра “аддалі ўсе сілы” – гэта, безумоўна, шэдэўр. А з улікам пралёту зборнай фраза “каманда зрабіла тое, на што здольная, і нават крыху больш” і ўвогуле выглядае як нейкая ідэалагічная дыверсія.

Гэта як у фільме Марка Захарава, калі паніч пытаецца ў каваля: “Сцяпан, у госця карэта зламалася. За колькі зробіш?” – “За дзень зраблю”. – “А за два?” – “Ну… Можна і за два”. – “А за пяць дзён?» – «Ну, калі пастарацца, можна і за пяць”. – “А за дзесяць?” – “Ну, пан, ты задачы ставіш! За дзесяць дзён аднаму не справіцца, тут памочнік патрэбны…”

Беларускім спартыўным функцыянерам, каб “разваліць карэту”, спатрэбілася 15 год і шмат “памочнікаў”. І, як мне падаецца, менш за ўсё пытанняў тут павінна быць да галоўнага трэнера зборнай **Дэйва Льюіса**, які пакінуў каманду падчас чэмпіянату. Калі на першынстве-2015 у Чэхіі каманда пад яго кіраўніцтвам заняла з рэкорднай колькасцю ачкоў 7-е месца, хто-небудзь кінуў камень у агарод канадскага спецыяліста? Хіба што Аляксандр Лукашэнка застаўся тады незадаволены паражэннем у чвэрцьфінале ад канадцаў (0:9), але ж прайгралі будучым чэмпіёнам свету.

Відавочна, што пасля сённяшняй паразы абавязкова адбудзецца “раздача сланоў” на самым высокім узроўні, але пытанне: каго прызначаць вінаватым? Думаю, што ў першую чаргу павінна несці адказнасць кіраўніцтва федэрацыі. 20 мая споўніцца роўна год, як на пасаду старшыні федэрацыі быў прызначаны **Сямён Шапіра**, і, мне падаецца, як гаспадарнік ён куды мацнейшы, чым кіраўнік хакейнага ведамства.

Але вядома і іншае – дэградацыя беларускага хакея пачалася дакладна не пры Шапіру. Яшчэ ў 1990-я і 2000-я гады кіраваць гэтым стратэгічным відам спорту было даручана “адказным у краіне” людзям. Стаўка была зроблена на сілавікоў. У 1997 годзе Федэрацыю хакея ўзначаліў **Юрый Барадзіч** (працаваў 4 гады), у 2001 годзе кіраванне перайшло да **Уладзіміра Навумава** (на пасадзе знаходзіўся да 2008 года), які па сумяшчальніцтве быў яшчэ і міністрам унутраных спраў. Менавіта ў “эпоху Навумава” ў хакей прыйшлі вялікія грошы, адміністрацыйны рэсурс зрабіў сваю справу. Была магчымасць запрасіць на пасаду галоўнага трэнера канадца, з’явіліся першыя вынікі. Але тым кіраўнікам федэрацыі было прасцей – хакейная школа савецкіх часоў падрыхтавала хакеістаў з запасам на гады, таму доўгі час выязджалі на старым багажы. Калі ж ветэраны пачалі вешаць канькі на цвікі, знайшлі новае выйсце – сталі даваць налева і направа беларускія пашпарты канадскім хакеістам, якім у склад сваёй зборнай прабіцца было нерэальна. Вось і вынік працы федэрацыі!

У 2009 годзе Навумаў пакінуў пасаду міністра ўнутраных спраў, з’ехаў у Маскву на працу ў нейкую камерцыйную фірму і памахаў рукой Федэрацыі хакея. Далей на гэтых пасадах працавалі **Яўген Ворсін** і экс-старшыня Памежнага камітэта **Ігар Рачкоўскі**, якія зрабілі свой унёсак у тое, што маем сёння. Так, мы дамагліся правядзення ў Мінску чэмпіянату свету-2014, але ў той год нацыянальная каманда, напэўна, апошні раз сабралася аптымальным складам. Далей уніз ужо каціліся па інерцыі.

Але тое, што зборная вылецела з эліты, гэта проста цудоўна. Таму што такі халодны душ для пацыента – жыццёва неабходная працэдура. У рэшце рэшт калі-небудзь усё роўна прыйшлося б вярнуцца з аблокаў на грэшную зямлю.

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

# Как наш организм реагирует на стресс

**Все мы знаем, что стресс наносит сильный вред организму: ваши мышцы напрягаются, уровень энергии падает, а кровяное давление подскакивает. Но не многие знают, что звон в ушах, частое посещение туалетной комнаты тоже могут быть поводом немного расслабиться и не нервничать. Мы расскажем вам о десяти странных способах, как гормон кортизол влияет на ваше тело.**



## Короткие замыкания мозга

Сильные стрессовые ситуации – например, завтрашняя презентация, могут спровоцировать выброс адреналина и других гормонов стресса. Пока эти химические вещества усиливают возбудимость мозга и центров, отвечающих за обнаружение угроз, они временно перекрывают некоторые связи коры головного мозга, которые отвечают за созерцание, критическое мышление и планирование, объясняет Эрно Германс, доктор философии, Университета Радбуда в Нидерландах. «Это происходит потому, что ваше тело сохраняет энергию для физической защиты (что, надеюсь, не произойдет)», – добавляет Германс. Результат: вы изо всех сил пытаетесь найти правильные слова, и вы выглядите как нервная особа перед вашим боссом и коллегами.

## Вам срочно необходимо отлучиться

Стресс инициирует выпуск другого химического стрессового вещества, известного как высвобождающий гормон кортикотропина, который смешивается с вашей кишечной функцией, показывает опыт Исследовательского центра по изучению заболеваний пищеварения в Лос-Анджелесе. Подобно тому, как животные избавляются от содержимого кишечника во время схватки с противником, также на стресс реагирует и ваше тело, помогая избавиться от лишнего веса, чтобы вам было легче убежать от врага. Следовательно, у некоторых людей, постоянно находящихся под влиянием сильного эмоционального давления, развивается диарея, указывает исследование.

## Высыпания

«Повышенный уровень гормона стресса кортизола заставляет активно работать сальные железы и вырабатывать противовоспалительное воскообразное масло, что приводит к временному появлению акне, покраснений, экзем и других видов дефектов кожи», – объясняет Флор А. Майораль, доктор медицины, дерматолог в Медицинской школе Миллера Университета Майами.

## Вы не можете избавиться от простуды

Когда вы заразитесь вирусом, все неприятные симптомы, которые вы испытываете (например, насморк, кашель или боль в теле), являются воспалительной реакцией иммунной системы на возбудитель. Стресс усиливает воспалительные процессы, а это означает, что ваше тело сильнее реагирует на вирус, показывает исследование, проведенное в Университете Карнеги-Меллона. Поэтому симптомы простуды могут длиться дольше.

## Выпадение волос

Напряжение, длящееся дни и недели, может привести к выпадению волос, причем этот процесс может длиться до трех месяцев после стрессового периода. Как только стресс уйдет, волосы начнут восстанавливаться.

## Мозг сжимается

Стресс как бы нажимает в мозге выключатель, который стимулирует ваш мозг к производству новых синапсов (нейронных связей), которые позволяют вашим клеткам мозга общаться друг с другом, показывают исследования в Йеле. В результате объем серого вещества со временем уменьшается. Авторы исследования говорят, что серое вещество, по крайней мере частично, участвует в регулировании эмоций. «И есть данные, связывающие этот тип усадки мозга с более высокими показателями депрессии»,– добавляют они.

## Звон в ушах

Одно из исследований, проведенное в Каролинском институте Швеции, показало, что стресс от необходимости сменить работу приводит к повышению уровня звона в ушах и другим проблемам слуха у женщин на 43 процента. Сканирование показало, что лимбическая область вашего мозга перевозбуждается, когда вы слышите шум в ушах, так как эта часть мозга также отвечает за аспекты регулирования напряжения.

## Ваши ногти плохо выглядят

Гормоны стресса могут сделать ваши ногти хрупкими и ломкими, также зачастую можно увидеть уродливые, приподнятые посередине «хребты» на ногтях. Как такое возможно? Как некоторые люди, когда нервничают, любят хрустеть костяшками или жевать кончики волос, так другие нажимают кончиками пальцев на края ногтей больших пальцев. Со временем это может привести к появлению неприглядного комковатого «хребта» в центре ногтя.

## Порезы и раны не заживают

Одна из реакций организма на стресс – это то, что он отводит воду от внешних слоев вашей кожи. Возможно, это способ уберечь вас от потери жидкости в чрезвычайной ситуации. Этот процесс подрывает способность вашей кожи восстанавливаться, показывают исследования, опубликованные в JAMA Dermatology. Соответственно, раны практически перестают заживать.

## Боль в животе

Как показывают исследования UCLA, химические вещества стресса могут попадать в желудочно-кишечный тракт, что приводит к урчанию в животе и тошноте. Исследователи предполагают, что взаимосвязь мозга и кишечника со стрессом довольно спорна, но, возможно, подобная реакция вызвана тем, что гормоны стресса, выделяющиеся в организме, когда вы измотаны, заставляют вашу пищеварительную систему удерживать калории и другие источники энергии, и этим может объясняться ощущение, что ваш желудок разбушевался.

*(По материалам зарубежной прессы.)*

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 14.05.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 24 010 экз. Заказ № 1612.